21 жніўня 2015 | № 31 (448)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Сацыяліст ідзе ў Белы дом

стар. 13

5 **ЯК ЗНАЙСЦІ ПРАЎДУ...**

Чацвёрты год Вольга дамагаецца, каб медыкі прызначылі ёй эфектыўнае лячэнне, а праваахоўнікі знайшлі вінаватых



6 **ТАЯМНІЦЫ БЕЛАРУСІ: ДОЎГІ ШЛЯХ ДА РАЗГАДАК**

Доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Сяргей Рассадзін завяршыў пяцігадовую праграму археалагічных раскопак Лаўрышаўскага манастыра

12 **НОВАЯ СТАРАЯ ЎНІЯ**

Заява былога румынскага прэзідэнта Траяна Бэсеску пра неабходнасць рэферэндуму аб абяднанні Румыніі і Малдовы выклікала рэзананс. Чаму? Пра гэта расказвае малдоўскі грамадскі актывіст Сяргей Чос

14 **ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ: Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ТАКОЕ ПІСЬМЕННІЦКІ ДРАЙВ**

У тым, што Марціновіч лічыцца адным з культавых маладых пісьменнікаў Беларусі, пераконваць нікога не трэба, але далёка не ўсе ўяўляюць, што за гэтым стаіць



# У глухім аптымізме

## Урад агучыў шэраг эканамічных паказчыкаў, якіх мы плануем дасягнуць у 2016 годзе



Сяргей ПУЛЬША

Найперш, інфляцыю мы разлічваем стрымаць у межах 12%. Гэта — сакральная лічба яшчэ з моманту дэвальвацыі 2011 года, і з тых часоў яна не вытрымлівалася.

«Прагнозны намінальны памер заработнай платы ў 2016 годзе складзе Br7,832 млн., і вырасце на 1,2%. Заработная плата ў бюджэтным сектары складзе Br6,347 млн.», — праінфармаваў на пасяджэнні ўрада міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі.

Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, намінальны заробак за чэрвень гэтага года склаў 6 млн. 883 тыс. 744 рублі. Такім чынам, рост да 7,8 млн. — гэта толькі кампенсацыя надзвычай аптымістычнай інфляцыі.

Улады плануюць, што ў 2016 годзе рост ВУП складзе 1,1% за кошт рэзкага, на 24%, росту экспарту тавараў і паслуг.

Між тым, як дасягнуць экспарту тавараў і паслуг на цэлую чвэрць, ніхто не патлумачыў. Наадварот, у гэтым плане нас чакаюць змрочныя часы.

Ні для каго не сакрэт, што асноўны спажывец беларускага экспарту — Расія. Таму па нас моцна б'е падзенне расійскага рубля. Калі рубель у Расіі падае адносна долара, то нашы тавары на гэтым рынку аўтаматычна даражэюць. І, аўтаматычна, падаюць продажы нашых тавараў. Такім чынам замест «плюсу» пры павелічэнні экспарту мы атрымліваем «мінус» у грошах ад продажу гэтых тавараў.

Расія ж не збіраецца падтрымліваць сваю нацыянальную валюту. Прэзідэнт РФ нават назваў падзенне расійскага рубля шанцам для развіцця ўнутранага турызму і прапанаваў аслабіць візавы рэжым для турыстаў з краін БРІКС. Пуцін, які абвясціў курс на імпартазамяшчэнне ў адказ на заходнія санкцыі, заклікаў павышаць якасць у індустрыі паслуг, «каб адпачываць у Расіі было камфортна, цікава і выгадна».

То бок, ратаваць расійскі рубель ад падзення Пуцін не збіраецца. Адпаведна, беларускі экспарт у Расію, якім бы па колькасці ён ні быў, будзе вымушана таннець. І яго ны рост на 24%, нават калі гэта адбудзецца, зусім не азначае, што мы атрымаем на 24% больш грошай. Наадварот, як бы ў «мінус» не сысці.

Дадатковым цяжарам для Беларусі ў будучым годзе стане і абслугоўванне знешняга дзярждоўгу. У 2016 годзе мы павінны выплаціць крэдыторам $3,2 млрд., уключаючы $2,3 млрд. пагашэння асноўнага доўгу. Палову асноўнага доўгу плануецца пагашаць за кошт бюджэту, другую палову ўрад мяркуе рэфінансаваць, паведаміў прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў.

У бягучым годзе абслугоўванне знешняга дзярждоўгу ўлятае краіне ў $4 млрд. На сёння ўлады ўжо пераадолелі




пік выплат, уключаючы пагашэнне дэбютнага выпуску еўрабондаў на суму ў $1 млрд. Але зазначым, што ўсе выплаты былі рэфінансаваныя за кошт новых крэдытаў і абавязацельстваў, то бок, мы іх не аддалі, а проста «падоўжылі». І крэдытны цяжар дагэтуль вісіць над краінай.

**У 2016 годзе мы павінны выплаціць крэдыторам $3,2 млрд.**

Забяспечыць рост рэалізацыі беларускай прадукцыі на расійскім рынку ў гэтых умовах можна двума шляхамі. Першы шлях — доўгі і дарагі. Гэта мадэрнізацыя вытворчасці, каб зрабіць беларускую прадукцыю менш энергаёмкай, менш дарагой і больш якаснай. На гэта патрэбныя грошы і новыя сучасныя тэхналогіі, якія можна ўзяць толькі ў замежных інвестараў. Але інвестары патрабуюць празрыстай прыватызацыі прадпрыемстваў, скасавання залішняга дзяржаўнага кантролю і, як мінімум, інстытута «залатой акцыі». Фактычна, гэты шлях вядзе да карэннай ломкі існуючай сістэмы «беларускага эканамічнага цуда». На што ўлада, канешне ж, не пойдзе.

Другі шлях даўно звыклы, хуткі і апрабаваны. Гэта дэвальвацыя нацыянальнай валюты да таго ўзроўню, пры якім беларускія тавары стануць канкурэнтназдольныя на расійскім рынку па кошце, калі не па якасці. У «мінімальным» варыянце беларуская дэвальвацыя павінная быць роўная «спуску» расійскага рубля.

Сцэнар «плаўнай дэвальвацыі» мы ўжо назіраем: яшчэ 1 жніўня курс долара па Нацбанку быў 15.248 рублёў. А ўжо 17 жніўня пераадолеў псіхалагічную рысу ў 16 тысяч і склаў 16.024 рублі.

Аналітыкі расійскага «Сбербанка» ў песімістычным сцэнары чакаюць, што да канца года расрубель патаннее яшчэ працэнтаў на 30 — да 80–90 рублёў за долар. Зыходзячы з гэтага, варта чакаць дэвальвацыі беларускай валюты на 35–40%.

# Павіншуйце Мікалая Дзядка!

**23 жніўня свой пяты дзень народзінаў за кратамі святкуе Мікалай Дзядок. Яму споўніцца 27 гадоў.**

Гэты Дзень народзінаў Мікалай павінен быў сустракаць дома, з роднымі. Але за тры дні да вызвалення ён быў асуджаны да дадатковага года зняволення ў калоніі строгага рэжыму. Гэты год ён адбывае ў горацкай калоніі, адной з самых жорсткіх у Беларусі.

Каардынацыйны камітэт ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча запрашае далучыцца да акцый у падтрымку палітзняволенага.

У знак салідарнасці заклікаем усіх неабыякавых павіншаваць Мікалая Дзядка з Днём народзінаў, зрабіўшы фотаздымкі ў цішотках з яго выявай ці з яго партрэтам і патрабаваннем яго вызвалення і размясціць іх у сацыяльных сетках, пазначыўшы хэштэгамі #СвабодуДзядку, #FreeDziadok.

Мы аб'яўляем таксама конкурс на лепшае віншаванне для палітвязня. Пераможцы атрымаюць падарункі ад арганізатараў.

Для ўдзелу:

1. Стварыце сваё віншаванне палітвязню.
2. Дашліце яго Мікалаю Дзядку ў калонію: 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Дабралюбава, 16, ПК-9, ПКТ.
3. Пастаўце хэштэгі #СвабодуДзядку, #FreeDziadok і размясціце віншаванне на старонцы ў Фэйсбуку да 24.00 у нядзелю 23-га жніўня.
4. Станьце пераможцам і атрымайце падарунак.

Далучайцеся, сябры!

Вы можаце падтрымаць чалавека, які ўжо пяць год у зняволенні адстойвае чалавечы гонар і годнасць. Будзьце салідарнымі!

Нават калі не паспееце павіншаваць да 23-га, усё роўна напішыце!

# Павал Севярынец: Рэпрэсіі ўзмацняюцца перад выбарамі

Арцём ЛЯВА

**У Мінску адбыўся круглы стол, прысвечаны тэме рэпрэсіяў супраць беларускай моладзі. Нагодай для аператыўнай арганізацыі мерапрыемства сталі затрыманне і арышт маладзёнаў за патрыятычнае графіці «Беларусь павінна быць беларускай!»**

У круглым стале «Рэпрэсіі супраць беларускай моладзі» прынялі ўдзел прадстаўнікі ініцыятывы «За Волю», БХД, моладзевых структур «Маладыя хрысціянскія дэмакраты», «Маладая Беларусь», «Альтэрнатыва», «Маладыя дэмакраты», «Малады Фронт», а таксама «Еўрапейскай Беларусі», «Беларускага руху», Праваабарончай арганізацыі «Веча», Беларускага дакументацыйнага цэнтру.

Паводле слоў Паўла Севярынца, круглы стол закліканы скаардынаваць рэакцыю грамадзянскай супольнасці на ўзмацненне рэпрэсій і паспрыяць вызваленню палітвязняў.

Падчас круглага стала абмяркоўваліся тэма пераследу чатырох чалавек за патрыятычныя беларускамоўныя графіці «Беларусь мае быць беларускай!». (Максім Пекарскі і Вадзім Жаромскі зараз знаходзяцца за кратамі, яшчэ двое — пад падпіскай аб нявыездзе), тэма сацыяльнай неабароненасці беларускіх добраахвотнікаў, якія бароняць украінскую зямлю ад расійскіх захопнікаў, узмацненне ціску на беларускіх футбольных фанатаў, а таксама праблема палітвязняў увогуле.

Бліжэйшым часам у дыпламатычныя прадстаўніцтвы і замежным арганізацыям-партнёрам будзе накіраваны зварот з інфармацыяй пра рэпрэсіі ў Беларусі.

Севярынец адзначыў, што ўзмацненне рэпрэсій адбываецца напярэдадні выбараў, паколькі ўладам патрэбныя новыя палітвязні для далейшага «гандлю» імі з Еўропай, і да таго ж улады такім чынам застрашваюць грамадства.

Прысутныя далучыліся да заявы ПЦ «Вясна», у якой заклікаецца спыніць пераслед графітыстаў Максіма Пекарскага, Вадзіма Жаромскага, Вячаслава Касінерава, Яраслава Ульяненкава, а таксама ініцыявалі зварот да патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, каб яны абумовілі свой далейшы ўдзел у выбачай кампаніі спыненнем палітычных рэпрэсій і вызваленнем палітвязняў.

Удзельнік круглага стала таксама заклікалі ўсіх неабыякавых грамадзян дасылаць лісты падтрымкі на адрас: 220050 Мінск, Валадарская, 2, СІЗА, куды нядаўна перавялі Максіма Пекарскага і Вадзіма Жаромскага.

# Без свабоды слова няма свабодных выбараў

Генадзь КЕСНЕР




**У аўторак, 18 жніўня, каля ЦУМа ў цэнтры Мінска каманда прэтэндэнта на кандыдата ў прэзідэнты Анатоля Лябедзькі зладзіла пікет у падтрымку свабоды слова ў Беларусі.**

Асноўным месіджам акцыі было тое, што без свабоды сродкаў масавай інфармацыі ў нашай краіне не можа быць і сапраўдных дэмакратычных выбараў.

«Паглядзеў БТ — пераключы за сабой!», «Патрабуем свабоды слова!», «Свабоду журналістам!», «Хопіць ілжы! Дастала!» — з такімі лозунгамі выйшлі на пікет яго арганізатары ды ўдзельнікі. У імпрэзе бралі ўдзел вядомыя асобы — намесніца старшыні АГП Антаніна Кавалёва, былы падпалкоўнік міліцыі Мікалай Казлоў, маці былога палітвязня Фёдара Мірзаянава Людміла Мірзаянава, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Карняенка ды іншыя.

Па словах кіраўніка АГП і прэтэндэнта на вышэйшую пасаду ў краіне Анатоля Лябедзькі, мэта акцыі: дэманстрацыя таго, што Беларусь — адна з нямногіх краінаў у Еўропе, дзе няма свабоды слова. «Ёсць запіс у Канстытуцыі, што кожны грамадзянін мае права на свабодны распаўсюд інфармацыі і яе атрыманне. Але тое, што напісана ў Асноўным законе, не ёсць правапрымяняльнай практыкай. На вялікі жаль, мы бачым БТ, якое стала сінонімам слова «хлусня», мы бачым, што афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі пертварыліся ў прапаганду, і мы бачым, што кавалкі гэтай прапаганды сядзяць у галовах нашых выбаршчыкаў, — адзначыў палітык. — Таму не можа быць свабодных і сумленных выбараў, калі няма свабоды слова. Мы нагадваем людзям, што гэта набытак, якога сёння няма. Ён быў калісьці ў 90-х гадах у Беларусі, і яго трэба вяртаць».

Лябедзька падкрэсліў, што грамадзянін не можа зрабіць свядомы выбар, калі ў яго няма інфармацыі: «А мы бачым 24 гадзіны за суткі на тэлевізіі адзін твар, адныя вусы».

Лідар АГП прызнаўся, што не чакае кардынальных зменаў сітуацыі пасля гэтага пікету.

«Мы не чакаем, што заўтра нас запросяць у жывы эфір БТ і скажуць, што няхай будзе сапраўдная дыскусія. Але для нас вельмі важна гаварыць пра гэтую праблему. Што істотна не толькі атрымаць кавалак хлеба, але, калі няма свабоды слова, калі чалавек не можа свабодна выказваць свае думкі, калі тромбы перашкаджаюць хадзіць інфармацыі, то, канешне, гэта праблема. Разам з тым, праз вось гэтае мерапрыемства мы хацелі выказаць сваю салідарнасць з журналісцкай супольнасцю, якая знаходзіцца на перадавой, і на сённяшні дзень падчас гэтай кампаніі, я думаю, больш за ўсіх цкавалі і пераследавалі менавіта журналістаў, асабліва журналістаў-фрылансераў. І мы выказваем нашу салідарнасць з гэтымі людзі, таму што гэта якраз укладваецца ў стратэгію мільёна новых працоўных месцаў, бо фрылансер сёння — гэта карыснае працоўнае месца. Яны робяць тое, што не робяць тысячы і тысячы чыноўнікаў у Беларусі», — перакананы Анатоль Лябедзька.

Прэс-сакратар АГП Ганна Красуліна агучыла імёны чальцоў медыя-супольнасці, якія апошнім часам падпадалі пад пераслед уладаў за сваю прафесійную дзейнасць. Тым часам актывісты каманды Лябедзькі збіралі подпісы пад зваротам да ўладаў з патрабаваннем спыніць пераслед незалежных СМІ і асобных журналістаў.

# Андрэй Бандарэнка: я прагаласаваў бы за ката

Міхаіл ПАСТУХОЎ



**Вязень сумлення Андрэй Бандарэнка даслаў чарговы ліст з калоніі. Ён піша пра «гульні» з ліквідацыяй «Платформы інавэйшн» і стварэннем новай арганізацыі на чале з Красоўскай-Каспяровіч. Тлумачыць, чаму, на яго погляд, адкрываюць дзверы ўсіх калоній для гэтых праваабаронцаў.**

Пры гэтым ён звяртае ўвагу «паказных праваабаронцаў» на парады ў дачыненні да палітвязняў («не ныць») і змяненне падыходу да становішча спраў у месцах пазбаўлення волі («ва ўмовах лібералізацыі»). У яго ёсць шэраг пытанняў як да сваёй былой памагатай, так і да Мікіты Ліхавіда.

Бандарэнка таксама абураецца тым, што яго «водпаведзь» на публічнае інтэрв'ю Красоўскай-Каспяровіч не прайшла «цэнзурнае сіта» ў калоніі. Ён накіраваў у рэдакцыю «Народнай Волі» новы, больш умераны варыянт.

Вязень сумлення застаецца ўсё ў той жа адзіночнай камеры, якую ў свой час «асвяціў» Мікалай Статкевіч. Цмянае асвятленне, нізенькія лаўкі, цесната.

За перадвыбарнай кампаніяй Бандарэнка назірае без энтузіязму. Адзінае, што яго насмяшыла, — гэта прапанова журналіста Васіля Сямашкі зарэгістраваць кандыдатам у прэзідэнты ягонага ката Барсіка. Ён высока ацаніў дзейнасць ініцыятыўнай групы ў падтрымку Мікалая Статкевіча і лічыць, што гэта быў учынак смелых і высакародных людзей. «Пасля таго, як правалілася ідэя з вылучэннем Мікалая Статкевіча, я прагаласаваў бы за ката», — дадаў ён.

У канцы ліста палітвязень піша пра сваё жаданне публікавацца на старонках «Новага часу» і адказваць на пытанні чытачоў (для жадаючых напісаць нагадваем яго адрас: 213004, Магілёўская вобл., г. Шклоў, вул. 1-я Завадская, ВК-17).

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Жыццё працягваецца!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Сіноптыкі абяцаюць — цёплыя дні яшчэ будуць, але галоўная летняя спёка скончылася. Некаторыя грамадзяне краіны капаюць бульбу, а некаторыя — рыхтуюць дзяцей да школы. Мы ўцягваемся ў працоўныя будні, і ўжо ўзгадваем прайшоўшае лета…**

Нас чакаюць выпрабаванні. Падобна на тое, што рэформа беларускай адукацыі мае ўжо сталы характар. Больш за 10 гадоў у нас ідуць змены-перамены, і чыноўнікі думаюць, што б яшчэ палепшыць. Вось і тых, хто ідзе ў гэтым годзе ў апошні клас, як казалі ў Саўдэпіі, «уступае ў дарослае жыццё», наступны год будзе складаным. Міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў на дакладзе ў Лукашэнкі паведаміў, што ў Беларусі зноў памяняюць правілы паступлення ў ВНУ.

У прыватнасці, па ягоных словах, будуць вырашаны пытанні аб здачы чатырох прадметаў на ЦТ, аб падачы дакументаў адначасова ў некалькі ВНУ па аднолькавым профілі. Акрамя таго, разглядаюцца некаторыя тэхнічныя змены, якія тычацца самой працэдуры правядзення цэнтралізаванага тэставання, сказаў чыноўнік, не ўдакладняючы дэталяў.

Будучыя абітурыенты павінны напружыцца. Хто яго ведае, што там навыдумлялі ў Мінадукацыі? Па старой звычцы, мы ўжо не чакаем ад іх нічога добрага.

У краіне працягвае расці долар. Прагнозы, выказаныя ў мінулым нумары «НЧ» наконт плаўнай дэвальвацыі, атрымалі рэзкі і хуткі працяг. Долар у чацвер пераскочыў планку ў 16 500 рублёў. Гэта азначае, што за тры тыдні — з 1 па 20 жніўня — урад абясцэніў нацыянальную валюту на 8,2%.

У гэты ж час адна са стваральнікаў канцэпцыі «плаўнай дэвальвацыі», былая кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова, атрымала ўзнагароду ўрада Беларусі. Ёй нададзеная ганаровая грамата.

Афіцыйна ў дакуменце за подпісам прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова гаворыцца, што Ермакова ўзнагароджана «за шматгадовую плённую працу па ўмацаванні інстытута сям'і і абароне законных інтарэсаў жанчын, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, вялікі асабісты ўнёсак у развіццё дабрачыннай дзейнасці». У гэтай пастанове Саўміна Ермакова ўзгадваецца як старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын», якое сёння аб'ядноўвае больш за 183 тысяч чалавек.

Аднак ці сапраўды яе ўзнагародзілі за «жаночую дзейнасць», а не за ідэю плаўнага спуску валюты? Бо 15 жніўня, праз тры дні пасля падпісання дакумента, у Мінску адбылася VI пазачарговая рэспубліканская канферэнцыя саюза жанчын, на якой новым старшынёй арганізацыі абрана міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна.

Увогуле, беларускія жанчыны радуюць. Букмекерскія канторы зноў уключылі беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч у лік верагодных лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Стаўкі на перамогу Алексіевіч ужо прымаюць ірландская PaddyPower і брытанская Landbrokes.

Між тым, пакуль не вядома, хто намінаваў Алексіевіч на атрыманне прэміі сёлета, і ці намінаваў яе хто-небудзь наогул. Аднак, паводле версіі абедзвюх букмекерскіх кантор, беларуская пісьменніца мае найбольш высокія шансы на перамогу. Прыкметна, што на другое і трэцяе месцы абедзве кампаніі змясцілі японца Харукі Муракамі і кенійца Нгугі Ва Тхіонга. Усе тры пісьменнікі лічыліся ў спісах найбольш верагодных уладальнікаў гэтай узнагароды і летась, аднак Нобелеўскай прэміі 2014 года ўдастоіўся француз Патрык Мадыяна.

**За тры тыдні жніўня ўрад абясцэніў нацыянальную валюту на**

**8,2%**

**А былая кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова атрымала ўзнагароду**

Букмекеры ўключаюць Святлану Алексіевіч у спіс верагодных лаўрэатаў прэміі ўжо трэці год запар. За цыкл сваіх твораў, сярод якіх «У вайны не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя смерцю», «Апошнія сведкі» і «Чарнобыльская малітва», яна ўнослася ў спіс намінантаў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры і раней.

Летась Алексіевіч з поспехам выпусціла заключную кнігу цыкла «Галасы Утопіі» пад назвай «Час сэканд-хэнд» і цяпер працуе над сваёй новай кнігай «аб простым чалавечым каханні». Гэтая кніга пад рабочай назвай «Дзіўная алянё вечнага палявання» ёй задумвалася яшчэ 20 гадоў таму…

Варта адзначыць, што ў сярэдзіне сакавіка гэтага года Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ) у ЗША сумесна з нью-ёркскім выдавецтвам «Juliette» намінаваў на Нобелеўку па літаратуры паэта Уладзіміра Някляева — «за адданае служэнне свайму народу ў імя свабоды».

Шведская акадэмія, якой даверана вызначаць пераможцу Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры, пакуль не вызначыла дату, калі будзе абвешчана імя новага лаўрэата прэміі. Аднак ужо вядома, што сёлета на адрас экспертнай камісіі паступіла 259 прапаноў з імёнамі 198 намінантаў. Сярод іх 36 чалавек, якія намінуюцца ўпершыню.

І яшчэ ўвосень мы пабачым добрае кіно. Першы тызер трагікамедыі «Гараш» аб жыцці ў сталічным мікраёне Шабаны ўжо з'явіўся ў інтэрнэце. Праект Андрэя Курэйчыка, меркавана, блізкі да завяршэння.

Аўтары ад пачатку паставілі сабе на мэце даказаць магчымасць здымак «незалежнага некамерцыйнага кіно аб Беларусі без дзяржаўнай падтрымкі або дыктату прадзюсараў». Здымкі фільма пачаліся ў канцы чэрвеня і завяршыліся ў жніўні гэтага года. Цяпер ідуць мантажна-таніровачныя работы. Бюджэт карціны склаў менш чым 5 тысяч долараў, сродкі ў стварэнне стужкі ўклалі як самі аўтары праекта, так і ахвяравалі грамадзяне.

У стварэнні фільма ўдзельнічаюць кампазітар стужкі «Вышэй за неба» і прадзюсар Дзмітрый Фрыга, прадзюсар «Тэатра Ч» Андрэй Чорны, аператары Аляксандр Крупіна і Мікіта Пінігін. Галоўныя ролі ў стужцы выконваюць музыканты гурту «Нейра Дзюбель» Аляксандр Кулінковіч і Юрый Навумаў, лідар калектыву «Гурзуф» Ягор Забелаў, акцёры Эвеліна Сакура і Арцём Курэнь, а таксама артысты беларускіх тэатраў.

«Беларусам час шчыра паглядзецца ў люстэрка і пашукаць адказ, што ж мы за дзіўная нацыя такая з савецкай сімволікай, саўковай архітэктурай, саўковым заканадаўствам, культурай, эстэтыкай, гумарам, дажынкамі, з недабітай нацыянальнай інтэлігенцыяй і вечным нявырашаным выбарам: быць часткай рускага свету або цывілізаванай еўрапейскай прасторы», — кажа Андрэй Курэйчык.

Ці будзе фільм паказаны ў кінатэатрах, па тэлебачанні або выкладзены ў інтэрнэт, залежыць ад таго, як да яго паставяцца ўлады Беларусі.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Яўген Васьковіч

**Палітвязень спадзяецца на перагляд пакарання. Пра гэта ён паведаміў маці Рушаніі Васьковіч.**

Па яе словах, гэта рашэнне павінна прымацца 17 верасня. Калі ўсё будзе добра, то Васьковіч можа выйсці з турмы да заканчэння свайго тэрміна. «У сына ўсё добра. Стан някепскі. Канфліктаў з начальствам калоніі няма. І знешне, і знутры адчувае сябе добра», — паведаміла маці палітвязня Рушанія Васьковіч.

Васьковіч зараз працуе на швейнай вытворчасці — шые вопратку, пасцельную бялізну і іншыя рэчы ўнутранага карыстання для калоніі і заказы з волі. На ўмовы ўтрымання не скардзіцца: «Харчаванне, хоць і «нішчымнае», і аднастайнае, але здавальняючае». «Здароўе не турбуе. Нават не выкарыстаў усю медбандэроль, якую атрымаў яшчэ ў снежні. Вітамінаў, вядома, бракуе, але дзякуючы перадачам і доўгім спатканням іх запас трохі папаўняецца», — напісаў ён у лісце.

«Лісты і астатнюю карэспандэнцыю атрымліваю рэгулярна. Заўсёды ў курсе падзей, якія адбываюцца. Шмат планаў і ідэй з'явілася для далейшай дзейнасці, многае зразумеў і ўсвядоміў. Стаў больш дыпламатычны, чым быў раней. З'явіліся мэтанакіраванасць і ўпэўненасць у сваіх дзеяннях», — паведаміў Васьковіч.

20-гадовы жыхар Бабруйска Яўген Васьковіч быў арыштаваны ў 2010 годзе і асуджаны за тое, што разам з сябрамі кінулі бутэлькі з запальнай сумессю ў будынак КДБ у Бабруйску. Цяпер яму 25 гадоў, большую частку зняволення ён правёў у крытай турме ў Магілёве амаль у поўнай ізаляцыі ад свету.



## Лідзія Ярмошына

**Старшыня ЦВК расказала пра сябе ў вялікім інтэрв'ю газеце «СБ — Беларусь сегодня».**

Мы даведаліся шмат цікавых рэчаў. Ярмошына вельмі лянотная: «Шмат хаджу пешшу… Кожны вечар у любое надвор'е гуляю па лесе, і па раніцах імкнуся, калі не прасплю».

Яна не бачыць сэнсу вучыць англійскую мову. «Не магу проста так дзеля сябе ўзяць і пачаць займацца англійскай мовай. Я ж не ўязная ў Еўрасаюз. Навошта мардавацца і абцяжарваць сабе жыццё. Дзейнічаю па абставінах. Калі трэба, тады я не лянівая. У адваротным выпадку магу расслабіцца», — сказала Ярмошына.

Прызналася, што не любіць гатаваць, і чаму «боршч»: «Жыву адна і рыхтую рондаль на тыдзень. Халадзільнік, хутчэй за ўсё, пусты. Затое ёсць яблыкі, якія падаюць з дрэў».

Не склалiся ў яе адносіны і з модай: «А я гультаяватая і, каб не напружвацца, палічыла, што лепш за ўсё браць галавой. Стала развіваць сябе, і зараз цалкам абыякавая да знешняй абалонкі. Да гэтага часу не ўмею фарбавацца».

І ў яе два наўдалых шлюбы. Вінаваціць, яна, канешне, мужыкоў, якія «анучы», а ці сапраўды так?



## Дар'я Домрачава

**Біятланістка прыняла рашэнне прапусціць сезон і ўзяць паўзу на год.**

Пра гэта Дар'я паведаміла сайту championat.com. Перапынак яна ўзяла, каб даць магчымасць арганізму аднавіцца.

«Біятлонны кубкавы сезон і падрыхтоўка да яго — гэта велізарны стрэс. Калі знаходзішся ў падобнай гонцы пастаянна на працягу многіх гадоў, арганізм стамляецца і ў большай ступені падвяргаецца захворванням і траўмам. Яшчэ пасля мінулага кубкавага сезону я адчула, што арганізму патрэбна перадышка, але не прыслухалася да сябе досыць сур'ёзна. Правёўшы два зборы ў маі і пачатку чэрвеня, арганізм сам запатрабаваў паўзу, падхапіўшы монануклеёз», — паведаміла яна.

«У мяне ёсць дакладнае разуменне: для таго, каб я змагла яшчэ сябе праявіць у спорце, арганізм павінен быць гатовы да сур'ёзных нагрузак, а для гэтага неабходна яго поўнае аднаўленне. Я не ўпэўненая, што, нагрузіўшы яго пасля хваробы ў гэтым годзе, змагла б працягваць нагружаць далей», — распавяла Домрачава.

# Рэбрэндынг:
## Абы не было вайны



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Сёлета ўпершыню за 21 год кіравання Лукашэнкі прэзідэнцкія выбары ў Беларусі супалі з глыбокім эканамічным крызісам. І гэта прымусіла кіраўніка Беларусі правесці ўласны «палітычны рэбрэндынг».**

На тле рэзкага падзення ўзроўню жыцця ранейшы лозунг «За моцную і квітнеючую Беларусь» выклікаў бы толькі журботны смех электарату. Таму на гэтыя выбары Лукашэнка ідзе ўжо пад лозунгам: «За будучыню незалежнай Беларусі!». Калі меркаваць па ягонай рыторыцы, гаворка ідзе пра незалежнасць найперш ад Расіі.

Дагэтуль усе пераабранні Лукашэнкі — у 2001, 2006 і 2010 гадах — адбываліся на тле росту прыбыткаў шараговых беларусаў. Тэхналогія была добра адпрацаваная — за год-паўтара да выбараў Беларусь брала «танныя» крэдыты — як на ўсходзе (у Расіі і Кітаі), так і на захадзе (у МВФ і Венесуэлы). Таксама Мінск дамаўляўся з Масквой пра пастаўкі танных нафты і газу, пра продажы на расійскім рынку беларускіх трактароў ды прадуктаў. Атрыманыя крэдыты ішлі на адміністрацыйнае падвышэнне заробкаў і пенсій. Такое напампоўванне прыбыткаў пры нязменнай эфектыўнасці працы ішло пад лозунгам: «За моцную і квітнеючую Беларусь!».




Аднак у снежні 2014-га пачаўся незапланаваны крызіс. Каля 85% экспарту беларускіх тавараў прыходзілася на Расію — і падзенне расійскага рубля прывяло да таго, што расійскі рынак зачыніўся для беларускіх экспарцёраў. Першым наступствам стала дэвальвацыя беларускага рубля, далей — падзенне заробкаў, поўныя склады, пераход заводаў на двух-трохдзённыя працоўныя тыдні, падаражанне прадуктаў да маскоўскага ўзроўню ды іншае.

Напрыканцы вясны стала зразумела: калі Лукашэнка пойдзе на выбары пад лозунгам росквіту — гэта будзе выглядаць як здзек. Тады дзяржаўныя ідэолагі вырашылі перахапіць адну з галоўных ідэй апазіцыі — празмерна блізкія зносіны з Расіяй пагражаюць незалежнасці Беларусі. Балазе, у нас дагэтуль добра памятаюць даўнюю прапанову Уладзіміра Пуціна далучыць Беларусь да Расіі шасцю абласцямі. Так і нарадзіўся цяперашні перадвыбарны лозунг нязменнага прэзідэнта — «За будучыню незалежнай Беларусі!».

Апошнія прыблізна 15 гадоў у якасці галоўных ворагаў Беларусі пазіцыянавалі ЗША, Еўрасаюз, а таксама Польшчу і Літву. Але зараз галоўнымі аб'ектамі крытыкі з боку Лукашэнкі зрабіліся расійскія алігархі («жадаюць прыбраць беларускія прадпрыемствы»), Расельгаснагляд («дыскрымінацыя беларускіх прадуктаў») ды «рускі мір». У дадатак — усе больш частыя развагі пра магчымасць ці немагчымасць вайны з Расіяй.

4 жніўня на сустрэчы з журналістамі, Лукашэнка выказаўся па тэме «рускага свету»: «Гэта няпраўда, што большасць за «рускі свет». Я пытаўся ў амбасадара [Расіі]: «Што значыць збіранне рускіх земляў і што такое рускі свет?» Ніхто мне так і не патлумачыў. Але цяпер гэта так не гучыць у расійскіх СМІ. Я думаю, што яны пачулі маё крытычнае пытанне і знялі гэта з паветкі дня».

Далей беларускі кіраўнік развіў сваю думку. «Я не разумею, што такое «рускі свет», вы — тым больш, а наш народ наогул не разумее, што за «рускі свет». Тады можна казаць пра беларускі, украінскі свет. Гэта што, нейкае супрацьстаянне? Таму гэта надуманая, дурная нейкая падстава, тэза. Не думаю, што ён у беларусаў знайшоў нейкую падтрымку. А насцярожыў сапраўды шмат каго», — сказаў ён.

Далей паследавала рэпліка на адрас Расіі: «Мы павінны жыць у сваіх кватэрах. Расія — гэта наш брат. Я нават часта кажу — старэйшы брат. Але толькі вы паводзьце сябе як старэйшыя браты. Калі цяжка малодшаму, то плячо падстаўце. Мы жывем хай у адным доме, але кожны ў сваёй кватэры».

Гэтыя выказванні наўпрост пераклікаюцца з тым, што Лукашэнка казаў 29 студзеня гэтага года на сваёй 7-гадзіннай прэс-канферэнцыі. Тады, разважаючы пра «рускі свет», ён сказаў: «Ёсць асобныя разумнікі, якія заяўляюць, што Беларусь — гэта, як яны кажуць, частка «рускага свету» і ці ледзь не Расіі. Забудзьцеся. Беларусь суверэнная і незалежная дзяржава... Мы заўжды былі гасцінныя да любога чалавека, але прымусім любога паважаць наш суверэнітэт і незалежнасць, хто падумвае, што няма такой краіны — Беларусі, не было і гэтак далей. Не было — а цяпер ёсць, і з гэтым трэба лічыцца. Гэта хтосьці жадае, каб нас прыціснулі, прыдушылі, каб мы на каленях стаялі, і як ні дзіўна, у апошні час гэта мы чуем ад Расіі. Але мы сваю зямлю нікому не аддамо».




**Агульны лейтматыў тэлеперадач і публікацый у дзяржаўных СМІ сёння: «Не будзе Лукашэнкі — Беларусь чакае вайна, як ва Украіне»**

На той прэс-канферэнцыі за словамі аб «рускім міры» пайшлі разважанні пра магчымасць узброенага канфлікту паміж Мінскам і Масквой: «Беларусі чужых земляў не трэба. Нам бы сваю нікому не аддаць, утрымаць яе... Калі мяне пачалі даставаць з пытаннямі, што Пуцін прыйдзе і захопіць частку нашай тэрыторыі, я жартам адказаў — у нас больш падстаў прэтэндаваць на расійскія землі. Але мы не прэтэндуем ні на якія землі».

Падчас гутаркі з журналістамі 4 жніўня ўсё паўтарылася. «Расія ніколі не будзе ваяваць з Беларуссю. Гэта будзе катастрофа для самой Расіі... Ваша бяда ў тым, што вы не ведаеце, што адбылося ва Украіне і што адбываецца. Я ведаю сітуацыю глыбей. Не трэба было падстаўляцца. Можа заўтра хтосьці захацеў б адрэзаць кавалак Палесся. Вы ўяўляеце, якая была б мая рэакцыя і нашага народа? Мы б ваявалі за кожны кавалак зямлі», — заявіў Лукашэнка, адказваючы на пытанне журналіста «Радыё «Свабода».

«Я памятаю сваю гутарку з Мікалаем Статкевічам каля Дому ўраду ў 1994 годзе, неўзабаве пасля першых прэзідэнцкіх выбараў. Тады Статкевіч (ён быў у той час лідарам БЗВ — Беларускага згуртавання вайскоўцаў) спытаў у мяне, ці можа Лукашэнка ахвяраваць суверэнітэтам краіны. Я ўпэўнена адказаў яму, што — не, — распавядае палітолаг Аляксандр Фядута. — Я сапраўды верыў у гэта. І Статкевіч паверыў мне. З таго часу шмат вады выцекла. І я ўжо амаль не веру Лукашэнку. Нават, можна сказаць, зусім не веру. Але я па-ранейшаму перакананы ў галоўным: ён разумее, што адмова ад суверэнітэту Беларусі стане для яго самай галоўнай памылкай у жыцці і, магчыма, пацягне за сабой яго згубу. То бок, хутчэй за ўсё, з суверэнітэтам ён не развітаецца».

Ужо 14 жніўня Лукашэнка перад тэлекамерамі заявіў, што Расія, парушаючы саюзныя абавязкі, адмовілася пастаўляць Беларусі сучасныя ўзбраенні, а таксама жадае «за капейкі» атрымаць актывы беларускага ВПК. Як сказаў прэзідэнт, Крэмль яго «шпыняе» за «разварот на Захад», і каб гэтага не было — «трэба паказваць сапраўднае аблічча Расіі».

Гэта прагучала, калі беларускі кіраўнік наведваў Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКТ) — прадпрыемства, якое выпускае шасі для расійскіх ракет «Тапалі–М», «Ярс» і шмат якіх іншых узбраенняў. Па ягоных словах, Расіі не варта разлічваць на рэалізацыю інтэграцыйных праектаў, у ліку якіх — продаж МЗКТ. «Нас палохаюць, што Расія, маўляў, распрацуе свае «сараканожкі» і будзе атамныя боегалоўкі перавозіць на сваіх — і на здароўе! Калі ў іх ёсць сёння мазгі і грошы, якіх у іх няма, — хай вынаходзяць! — заявіў Лукашэнка ў гутарцы з дырэктарам прадпрыемства. — Мы пакуль прадаваць гэтае прадпрыемства не збіраемся. Яно павінна працаваць у нас».

«У эканоміцы паляпшэнні хуткім часам не наступяць. Улада гэта разумее. Стаўка зроблена на галоўную каштоўнасць дзяржавы: на незалежнасць. Думаю, гэты выбар зроблены пасля аналізу сацыялагічных апытанняў. Сёння незалежнасць падтрымліваецца абсалютнай большасцю грамадзян нашай краіны, як апанентамі, так і прыхільнікамі дзеючага прэзідэнта, — лічыць Ігар Маслоўскі, першы намеснік старшыні БСДП. — З аднаго боку, гэта кажа пра слабасць пазіцый уладаў. Атрымліваецца, яны правадзілі інтэграцыйныя працэсы так паспяхова, што цяпер пад пытаннем аказалася незалежнасць. З іншага боку, улада знайшла агульную каштоўнасць для большасці і зрабіла яе галоўным лозунгам на выбарах. Маўляў, думайце: «Застанецца дзейсны прэзідэнт — застанецца і незалежнасць».

Яшчэ адзін фактар, які актыўна эксплуатуюць дзяржаўныя ідэолагі, — традыцыйнае жаданне беларусаў: «Абы не было вайны». Агульны лейтматыў тэлеперадач і публікацый у дзяржаўных СМІ сёння: «Не будзе Лукашэнкі — Беларусь чакае вайна, як ва Украіне». Чаму, з якога перапуду, — не тлумачыцца. Затое страшныя малюнкі з сённяшняй украінскай рэчаіснасці публікуюцца ў вялізнай колькасці. Але гэта — тэма ўжо іншага артыкулу.



# Як знайсці праўду, ці Хто там ходзіць з крывымі нагамі?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Чацвёрты год мінчанка дамагаецца, каб медыкі прызначылі ёй эфектыўнае лячэнне, а праваахоўнікі знайшлі вінаватых.**

Гэтую паездку ў Скідзель (Гродзенская вобласць) да маці ў сакавіку 2012 года настаўніца Вольга Ласіцкая будзе памятаць яшчэ доўга — зачапіўшыся за яміну і ўпаўшы на пероне, жанчына паламала нос, разбіла твар і моцна стукнула галаву.

«Быў вечар, цёмна, ліхтары свяцілі такім чынам, што цені ад двух цягнікоў абапал перакрывалі перон. Я нават не ўцяміла, што адбылося, — нечакана апынулася на зямлі, а вакол мяне згуртаваліся людзі. Як зразумела пазней, нага саслізнула ў прамежак між зямлёю і перонам (на фота), з-пад якога ад старасці ўжо вымыўся цэмент. Акуляры, рэчы — усё разляцелася, сумку мужчыны дасталі ажно з-пад колаў цягніка», — расказвае Вольга Ласіцкая.

Жанчыну сустракаў брат, які адразу ж адвёз яе ў скідзельскі шпіталь. «Там мяне агледзеў лекар. Паводле медычных стандартаў (пра гэта я ўжо даведалася пазней), ён мусіў зрабіць рэнтген чэрапу і касцей носа, памераць ціск, узяць аналізы. Мне ж толькі зрэзалі скуру з рук, бо яна вісела ашмоццем, залілі раны перакісам вадароду і злёгку абматалі рукі бінтамі — і гэта пры тым, што я ўпала з вышыні ўласнага росту і стукнулася галавою!.. Праўда, лекар спытаўся, ці буду я класціся да іх у шпіталь, калі ж я адказала, што не збіралася, — адпусціў і сказаў звяртацца, калі будзе горш».

Наступныя дні, што жанчына правяла ў мамы, без слёз Вольга згадваць не можа: «Жахліва балела галава, твар ацёк, адну руку не магла разагнуць, раны сталі нагнойвацца, бо ў іх патрапіў пясок з друзам, — Вольга паказвае каменьчык, які застаўся ў яе на далоні пад нарослай скурай, а таксама дробныя шнары на твары. — На трэці дзень брат мяне адвёз у той жа шпіталь, мне нарэшце зрабілі рэнтген і ўбачылі пералом спінкі носа. Тады ж мяне агледзеў неўролаг і скіравала на кампутарную тамаграфію галавы ў Гродна. З вынікамі абследавання я вярнулася ў Мінск, прасіла ўчастковага неўролага пакласці ў стацыянар — мне было так дрэнна, падавалася, вочы лопнуць ад болю, аднак мяне лячылі толькі амбулаторна». Каб легчы ў шпіталь, жанчыне давялося пісаць заяву ў Камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама.





Вольга Ласіцкая ў 2012 годзе, пасля падзення з перону, і цяпер



Той самы перон, з якога звалілася Вольга Ласіцкая

У Мінску жанчына падала заяву пра здарэнне ў міліцыю, пасля чаго была прызначана судмедэкспертыза. «Падчас гэтай экспертызы мне паставілі толькі дыягназ «пералом спінкі носа», у размове судмедэксперт прама сказаў, што страсенне мозгу ставіць не будзе, каб нікога не падставіць», — кажа Вольга Ласіцкая. Праўда, пасля абскарджвання вынікаў абследавання той судмедэксперт быў звольнены.

За тры гады перапіскі з лекарамі сям'я Ласіцкіх адэкватнага лячэння так і не дамаглася — давялося ехаць за мяжу. Вольга за свой кошт прайшла абследаванні ў Расіі і Польшчы, падчас якіх выявілася, што пасля падзення ў Скідзелі ў чэрапе жанчыны адбыліся незваротныя змены — утварылася кіста, гідрацэфалія (празмернасць вадкасці), атрафіравалася кара мозгу. Пасля заключэння замежных калегаў беларускія медыкі таксама пачалі апісваць гэтыя праблемы, аднак не прызнавалі, што яны звязаныя з ударам галавою аб перон.

«Спачатку мне наогул лячылі астэахандроз і атэрасклероз — маўляў, боль у галаве і мышцах выклікана менавіта гэтым. Але ніякіх падставаў для гэтых дыягназаў не было — халестэрын у норме, лішняй вагі няма, атэраскератычных бляшак таксама... Лячылі проста, каб нешта лячыць, замест дасканалага абследавання галавы», — лічыць Вольга.

Нягледзячы на апатыю і абыякавасць лекараў, Вольга з мужам праявілі незвычайную настойлівасць і прынцыповасць — сустрэліся з міністрам аховы здароўя Васілём Жарко, падалі іск да беларускай чыгункі, а таксама падалі ў суд заяву пра парушэнне арт. 45 Канстытуцыі, які забяспечвае кожнаму грамадзяніну Беларусі права на ахову здароўя. «Жарко прызначыў адмысловую медычную камісію, але прайшла яна халтурна — мне проста адгінalі пальцы на руках і глядзелі, ці вяртаюцца яны ў зыходную пазіцыю. Аднак радуе, што пасля нашай сустрэчы выйшлі новыя, больш дасканалыя стандарты датычна абследаванняў пры чэрапна-мазгавых траўмах», — распавядае Вольга. Суд не прызнаў, што права Ласіцкай на ахову здароўя было парушана, аднак за траўму Вольгі чыгунку прымусілі выплаціць дзесяць мільёнаў рублёў.

«Мы грошаў яшчэ не забіралі, будзем абскарджваць рашэнне: што гэта за сума, калі цяпер штомесяц я трачу каля мільёна рублёў на лекі, некаторыя з якіх, да таго ж, трэба набываць за мяжой? Тым больш, наступствы траўмы галавы — яны на ўсё жыццё. Я і цяпер практычна штораніцу прачынаюся ад галаўнога болю, значна пагоршыўся зрок, баляць вочы».

Аднак галоўная мэта доўгіх перапісак і судоў, кажуць Ласіцкія, не грошы: «Мы хочам дамагчыся, каб кожны чалавек мог своечасова атрымаць паўнавартасную медычную дапамогу. Каб любы ведаў, якія абследаванні павінен праводзіць лекар у тым ці іншым выпадку, і мог параўнаць практычнае лячэнне з тэарэтычнымі медычнымі стандартамі. Уся інфармацыя мусіць быць у свабодным доступе, а не як цяпер, калі даводзіцца ледзь не кляшчамі выцягваць з чыноўнікаў і лекараў звесткі пра дыягназ і ход лячэння. Напрыклад, атрымаць вынікі камісіі, што праводзілася па загадзе Жарко, я змагла толькі пасля суду», — абураная Вольга.

Вольга Ласіцкая звязвае падобную рэакцыю на яе траўму са 150-годдзем беларускай чыгункі, якое адзначалася ў 2012 годзе, — тады ж мянялася і кіраўніцтва: «Людзі з розных рэгіёнаў прэтэндавалі на пасаду кіраўніка беларускай чыгункі. Напэўна, я сапсавала ўсю карціну баранавіцкаму аддзяленню.

Перад паездкай у Гродна я заходзіла да начальніка станцыі і спыталася, як жа так — я ж забіцца магла на тым пероне! А калі б ішоў нехта іншы і нёс дзіцёнка на руках?.. Начальнік станцыі патэлефанавала свайму кіраўніцтву — дык у яе спыталіся, хто там, маўляў, ходзіць п'яны з крывымі нагамі...»

Дарэчы, пасля здарэння перон адрамантавалі, аднак ці пакаралі кагосьці за здарэнне, жанчына дакладна не ведае — паводле яе інфармацыі, толькі аднаму дарожнаму рабочаму вынеслі вымову.

Былы следчы і цяперашні кіраўнік арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву», якая зараз дапамагае рыхтаваць наглядную скаргу ў гарадскі суд Ласіцкім, Алег Волчак лічыць, што праваахоўнікі і медыкі наўмысна змяншаюць траўмы Вольгі:

— Гэтыя траўмы трэба адносіць да цяжкіх цялесных пашкоджанняў, аднак у такім выпадку неабходна заводзіць крымінальную справу. Мы сутыкаемся з праявай суцэльнай карумпаванасці і кланавасці дзяржаўных органаў — чыгуначнікі, лекары, суддзі пакрываюць адзін аднаго. Даўно наспела патрэба не толькі ў судовай рэформе, аднак і ў медычнай. Заканадаўства датычна медыцыны ў нас выдатнае, аднак як яно рэалізуецца на практыцы...

Адсутнічаюць механізмы абароны ад лекарскай безадказнасці, вельмі цяжка пакараць нядбалых лекараў. Калі мы гаворым пра некампетэнтнасць лекара, паўстаюць пытанні — хто яго вучыў, каму ён падпарадкоўваецца, хто пацвярджаў яго кваліфікацыю. Караюць шараговага лекара, а кареаца ўся сістэма — аналагічна і з суддзямі. Такіх сем'яў, як Ласіцкія, тысячы, аднак далёка не ў кожнага хапае волі і магчымасцяў паслядоўна адстойваць свае правы і выкрываць заганнасць сістэмы.


Брама Лаўрышаўскага манастыра, які адбудоўваюць каля в. Гнесіна



Шыльда каля Лаўрышаўскага манастыра


Прафесар Сяргей Рассадзін

# Таямніцы Беларусі: доўгі шлях да разгадак

Вольга ХВОІН

**Доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Сяргей Рассадзін завяршыў пяцігадовую праграму археалагічных раскопак Лаўрышаўскага манастыра, які каля 1260 года заснаваў сын вялікага князя ВКЛ Міндоўга Войшалк.**

Паводле версіі спадара Рассадзіна, Лаўрышаўскі манастыр адметны тым, што вялікі князь Войшалк працягваў адсюль кіраваць дзяржавай. Адпаведна, менавіта ў Лаўрышаве некаторы час знаходзіўся цэнтр Вялікага Княства Літоўскага.

«Войшалк не змог дайсці да Святой Гары, паколькі вялікі мяцеж быў тады ў тых землях, і прыйшоў зноў у Наваградак; і ўчыніў сабе манастыр на рацэ на Нёмане, паміж Літвой і Навагрудкам, і там жыў», — гаворыцца ў Іпацьеўскім летапісе.

У XIII–XIV стагоддзях манастыр быў летапісным цэнтрам нашай старадаўняй краіны. У 1329 годзе ў манастыры было створана рукапіснае Лаўрышаўскае Евангелле — помнік беларускага кнігапісання, што зараз знаходзіцца ў Кракаве, у прыватнай бібліятэцы-музеі Чартарыйскіх.

## Брудная праца з гістарычнай спадчынай

Пяць гадоў пад кіраўніцтвам прафесара Рассадзіна даследавалася тэрыторыя вакол царквы Успення Прасвятой Багародзіцы. І знаходкі паказваюць, што недарэмна. Быў знойдзены падмурак манастыра, побытавыя рэчы, кераміка, кафля, манеты, якія дазваляюць датаваць культурны пласт.

У дзень майго наведвання Лаўрышава было халоднае надвор'е, ішоў дождж. Тым не менш працы на раскопе не спыняліся. Валанцёры, стоячы ў вадзе ў гумовых ботах, зачэрпвалі з ямы гразкі грунт, перабіралі яго, знаходкі адпраўлялі на мыйку-сарціроўку.


Знаходкі археалагічных раскопак каля Лаўрышаўскага манастыра

«Нашы добраахвотнікі — школьнікі і студэнты з усёй Беларусі — працуюць з энтузіязмам. У першыя чатыры дні экспедыцыі ладзім лекцыі, падчас якіх тлумачым, што такое археалагічныя раскопкі, для чаго робіцца. Экспедыцыі маюць і асветніцкі характар — ці не штодзень дзеці ездзяць на розныя экскурсіі, дзе знаёмяцца з адметнасцямі краю. Гэта ўжо пятая экспедыцыя, і ніводнага разу не было, каб нехта з'ехаў, бо спалохаўся цяжкасцяў. Едуць толькі, калі трэба падаваць у навучальную ўстанову дакументы, ісці на практыку, — распавядае памочнік кіраўніка экспедыцыі, гісторык Тэльман Маслюкоў.

Паводле яго слоў, сёлета знайшлі каменны нож перыяду мезаліту (IX–V тысячагоддзе да н. э.), фрагмент шахматнай фігуры з косці, гербавую кафлю, лампадку, манеты ды іншае. Многа аскепкаў ганчарных вырабаў, косных фрагментаў.

«У Лаўрышаўскім манастыры ёсць сучасная каваная брама з выявай вінаграднай лазы, гэты біблейскі сюжэт узялі са знойдзенай намі ў час раскопак кафлі», — гаворыць спадар Маслюкоў.

«Я сюды прывёз школьнікаў, бо мне падаецца гэта цікавым. Гэта захапляе — гістарычныя знаходкі, экскурсіі, кантакты з аднагодкамі з усёй Беларусі. Ужо праз тыдзень дзеці пыталіся, калі ў наступны раз паедзем на раскопкі», — распавядае Арцём Курэц, кіраўнік групы вучняў.

## Дзе месца музейным экспанатам

Прафесар Сяргей Рассадзін знаходкай месца, дзе быў заснаваны Лаўрышаўскі манастыр, відавочна ганарыцца. І ў працяг гэтага праекту мае хоць і празаічную, але цікавую задуму: зрабіць даследаванне, экспазіцыю пра будзённае жыццё чорнага духавенства.

«Лаўрышаўскі манастыр ствараўся Войшалкам у якасці рэзідэнцыі. То па вызначэнні ён займае асаблівае месца сярод помнікаў археалогіі Беларусі. Але, з іншага боку, гэта ж цудоўная магчымасць вывучаць побытавую культуру манаскага жыцця. Мы больш ведаем пра духоўнае жыццё, дзякуючы літаратурным помнікам. А што той святар, манах еў, як ён пасціўся — гэта даволі цьмяна вывучана. Манахаў часта паказваюць як людзей, якія сыта пілі і елі, вялі такі прыгожы разгульны лад жыцця. Толькі нашы раскопкі паказваюць, што ўсё не так, — падкрэслівае Рассадзін. — Як прафесар БДТУ, я мушу сказаць, што археалагічныя знаходкі дазваляюць вывучаць тэхналогіі. І галоўнае — цяпер час збіраць камяні ды шукаць старое, нашы вытокі. Я гляджу на нашых валанцёраў — яны занятыя стваральнай працай. Да прыкладу, нашы раскопкі ў Светлагорску: усе думалі, што горад малады і ўзнік у 1960-х гадах. А вось жа, дзякуючы намаганням, стала вядома, што там было старажытнае паселішча — горад Казімір з Магдэбургскім правам, самакіраваннем, гербам. Атрымліваецца, гісторыя не завяршылася ў мінулых стагоддзях, а мае свой працяг у сённяшнім дні».

Сяргей Рассадзін распавядае, што ёсць вялікая задума: стварыць музей, у якім будзе адлюстраванае манаскае жыццё. Але не ў Мінску, а тут, у Лаўрышаўскім манастыры. Варта заўважыць, што манастыр плануюць разбудаваць побач з вёскай Гнесічы (гэта 4 км ад Лаўрышава) у вялікі комплекс: на тэрыторыі ва ўсю ідзе будоўля. Ігумен Свята-Елісеёўскага Лаўрышаўскага манастыра айцец Яўсевій і епіскап Навагрудскі і Слонімскі Гурый ініцыятыву падтрымліваюць.

«Сюды ездзяць паломнікі, ім будзе цікава даведацца пра гісторыю: вось XIII стагоддзе, а вось XXI. Тут усе знаходкі гучаць інакш, чым у Мінску, дзе яны ператвараюцца ў шараговыя аб'екты, за якія, можа, і вока не зачэпіцца. Цікава рэалізаваць праект па вывучэнні манаскага

> **Пяць гадоў даследавалася тэрыторыя вакол царквы Успення Прасвятой Багародзіцы ў Лаўрышаве. І не дарма**

жыцця: што елі-пілі, у што апраналіся, паводле якіх рэцэптаў на кухні гатавалі. У думках я ўжо сабраў калектыў людзей, якія могуць працаваць па гэта тэме», — гаворыць навуковец.

## Сенсацыю плануюць знайсці на Дняпры

Прафесар Рассадзін мяркуе, сёлета быў апошні сезон раскопак у Лаўрышаве. Даследаванні, канешне, будуць працягвацца. Але ў навукоўца ёсць планы распачаць новы маштабны праект — археалагічныя пошукі ў Лоеве, старым горадзе на Дняпры на самай мяжы з Украінай.

Да слова, сёлета ўлады Лоева вырашылі добраўпарадкаваць мясцовы археалагічны помнік — замчышча — без узгаднення з Міністэрствам культуры. У выніку былі пашкоджаныя сядзіба і абарончы роў X стагоддзя.

Натуральна, узнікае пытанне, хто фінансуе ў прамым сэнсе «брудную працу» археолага.

«Я з вялікім піетэтам стаўлюся да Акадэміі навук, якая вырашыла не фінансаваць мой праект. Але добра, з задавальненнем паназіраю за поспехамі Акадэміі навук, і ў галіне археалогіі таксама. З боку дзяржавы дапамога абмяжоўваецца адной старонкай фармату А4, дзе напісана нешта ў такім духу «Інстытут гісторыі Акадэміі навук дазваляе такому-та весці раскопкі там-та». Усё, — расказвае Сяргей Рассадзін. — Але, бачыце, у нас склалася баявая каманда, якая дапамагае шукаць сродкі і на праезд людзям, каб не трацілі свае капейкі, і на торт да дня народзінаў. Канешне, моцна дапамагае ў гэтым выпадку манастыр: корміць валанцёраў, выдзеліў памяшканне для пражывання. Настаяцель манастыра лічыць, што трэба гэты праект падтрымліваць.

Калі пачыналі шукаць Казімір, то самастойна нанялі вясковую хату, купілі яек-малака і пачалі раскопкі. Калі стала вядома пра першыя знаходкі, прыехаў кіраўнік гарвыканкама Баляслаў Пярштук, паглядзеў і распарадзіўся, каб дзяцей з тэхнікума адправілі не на традыцыйную бульбу, а на раскопкі. Дапамог з матэрыяльным забеспячэннем, у мяне ж ёсць камандзіровачныя ад універсітэта. Вось так — з міру па нітцы».

Археалагічныя раскопкі ў Лоеве таксама, відавочна, будзе фінансаваць мясцовая ўлада. Ёсць папярэдняя дамоўленасць з Гомельскім аблвыканкамам.

«Каб існаваў калектыў, супольнасць аднадумцаў, увесь час мусіць быць актуальная мэта, мара. Лоеў — гэта старажытны горад. У нашых планах знайсці яго старажытныя падмуркі. І ў выніку хацелася б атрымаць матэрыял, які дазволіць стварыць праект рэканструкцыі замка. Каб людзі маглі не толькі паслухаць пра гісторыю, але і дакрануцца да яе рукамі», — падкрэслівае Сяргей Рассадзін.

Пётр РУДКОЎСКІ

# Прэзідэнт кансерватыўнай альтэрнатывы

**Апошняе палітычнае паўгоддзе ў Польшчы было вельмі цікавым. Анджэй Дуда, малавядомы палітык партыі «Права і Справядлівасць» (ПіС), цягам трох месяцаў узняўся на палітычны Алімп і спіхнуў адтуль дзеючага прэзідэнта Браніслава Камароўскага, бясспрэчнага фаварыта на старце выбарчай кампаніі.**



Беларускія СМІ даволі скупа гэта каментавалі. Дзяржаўныя СМІ абмежаваліся сухой інфармацыяй пра тое, хто перамог і з якім адсоткам. Недзяржаўныя выданні акцэнтавалі тое, што новаабраны прэзідэнт жадае размясціць базы NATO ў Польшчы і займаць больш актыўную пазіцыю датычна Усходняй Еўропы, перадусім Украіны. Прыкладна такія акцэнты прасочваліся таксама ва ўкраінскіх і літоўскіх СМІ. У заходнееўрапейскіх жа медыях дамінаваў аларміцкі тон: «перамог ультракаталік», «трыумф нацыял-кансерватараў», «узмацненне еўраскептычнага лагера» і падобнае.

Дык што азначае выбар Анджэя Дуды для Усходняй Еўропы, для Польшчы і для Еўропы ў цэлым?

## Дуда на лініі: Польшча — Усходняя Еўропа

Я не заўважыў у Анджэя Дуды якой-небудзь акрэсленай праграмы наконт Усходняй Еўропы. Сам ён ані не мае досведу працы ў абшары ўсходняй палітыкі, ані не даследаваў гэтых пытанняў. Тое, што можа прадвызначаць яго ўсходнюю палітыку ў накірунку падтрымкі незалежнасці Украіны ці Беларусі, гэта хутчэй псіхалагічныя фактары, чым ідэйна-праграмныя. У імя памяці трагічна загінулага прэзідэнта Леха Качыньскага, духоўную повязь з якім Дуда адчувае, цяперашні прэзідэнт наўрад ці адыдзе ад прынцыповай пазіцыі яго папярэднікаў у справе Украіны ды іншых сатэлітаў Расіі. Але пра якасныя зрухі ў тактыцы ці стратэгіі ўсходняй палітыкі новага прэзідэнта гаварыць яшчэ рана.

Варта, аднак, звярнуць увагу на некаторыя фактары, якія могуць уплываць на фармаванне гэтай палітыкі ў будучым. Анджэй Дуда належыць да асяроддзя, якое вельмі падзеленае як наконт украінскага пытання, так і наконт польскай усходняй палітыкі ўвогуле. Ці сапраўды палякі павінны забыцца пра крыўды з боку ўкраінскіх нацыяналістаў часоў Другой сусветнай вайны і безагаворачна падтрымліваць Украіну ў яе канфлікце з Расіяй? Ці на фоне антыхрысціянскіх ды постнацыянальных тэндэнцый у Заходняй Еўропе пуцінская Расія аж такая кепская? Ці не было б больш лагічна, калі б грошы польскіх падаткаплацельцаў ішлі перадусім на падтрымку польскіх меншасцяў на ўсходзе замест спансавання такіх абстракцый, як «дэмакратызацыя» ці «будаванне грамадзянскай супольнасці» ў суседніх краінах? — такія пытанні вельмі вярэдзяць многіх прадстаўнікоў польскай правіцы. І хоць кіраўніцтва ПіС стараецца кантраляваць у сваіх шэрагах «усходні дыскурс» і не дапускаць да голасу прарасійскія ці антыўкраінскія меркаванні, то ўсё ж само напружанне па гэтым пытанні можа ў будучым стаць сур'ёзным выпрабаваннем.

«Права і Справядлівасць» у часы свайго быцця пры ўладзе (2005–2007) запомнілася між іншым вельмі контраверсійнымі хаўрусамі. Тады яна запрасіла да кааліцыі папулісцкую «Самаабарону» (яе лідар Анджэй Лепер быў шчырым сімпатыкам Лукашэнкі) і Лігу польскіх сем'яў — партыю, якая вызначалася сваім еўраскептыцызмам і непрыхільнасцю да нацыянальнага адраджэння ў Беларусі ці Украіне. Прымаючы, што разрыў Анджэя Дуды з ПіС малаверагодны (і, бадай, непажаданы), стабільнасць усходняй палітыкі дзеючага прэзідэнта ў значнай ступені залежыць ад таго, ці ПіС здолее знайсці шляхі паразумення са сваім галоўным канкурэнтам — цэнтра-правай «Грамадзянскай платформай» (ГП). Калі паміж ПіС і ГП канфлікт паглыбіцца, то ПіС разам з дзеючым прэзідэнтам можа зноў пачаць шукаць кааліцыянтаў сярод прарасійскіх, антыўкраінскіх і еўраскептычных сілаў. Таму, магчыма, калі на ўвазе незалежнасць і дэмакратызацыю Беларусі, можна сказаць, што ў нашых інтарэсах, каб ПіС і ГП паядналіся. Думаю, што такое паяднанне было б карысным таксама і з гледзішча інтарэсаў польскага грамадства і польскае дзяржавы.

## Дуда ў польскім і заходнееўрапейскім кантэксце

Стан, у якім знаходзіцца зараз кіроўная партыя (ГП) уключна з іхнім прайграўшым кандыдатам (Камароўскім) назіральнікі апісваюць з дапамогай пытання: «Як гэта сталася?». Я б дадаў тут, што не толькі палітычныя апаненты ў Польшчы агаломшаныя перамогай Дуды: агаломшаныя ёй таксама заходнееўрапейскія леваліберальныя сілы, інакш кажучы, еўрапейскі мейнстрым. Перамога Дуды сталася фактарам дэзарыентацыі для ўсіх тых, хто прызвычаіўся жыць у перакананні, што хрысціянска-кансерватыўныя каштоўнасці — гэта бесперспектыўны, заімшэлы, скампраметаваны і не варты якой-кольвечы падтрымкі выбар.

У мінулым — трэба прызнаць — лідары ПіС унеслі свой уклад у фармаванне непрываблівага профілю іх партыі і ўсяго хрысціянска-патрыятычнага асяроддзя. Ментарскі тон Яраслава Качыньскага, распаўсюджанне тэорыяў змовы вакол смаленскай трагедыі Антоніем Мацярэвічам ці агрэсіўна-іранічны тон Крысціны Паўловіч — усё гэта спрашчала справу палітычным ды ідэйным апанентам у фармаванні ўяўлення пра ПіС як пра гняздо фанатызму і цемрашальства. І хто ж мог падумаць, што ў гэтым гняздзе гадуюцца такія маладыя, адукаваныя і энергічныя палітыкі, як Анджэй Дуда і яго каманда.

З'яўленне, уздым і перамога Дуды сталі выбітным сведчаннем таго, што кансерватыўныя асяроддзі, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, здольныя быць вельмі гнуткімі і крэатыўнымі ў палітычнай барацьбе і валодаюць немалым інтэлектуальным патэнцыялам. З нагоды выбарчай кампаніі Дуды выявілася шэраг нечаканых бакоў польскага кансерватызму. Голас займелі кансерватары, якія маюць моцны светапоглядны (хрысціянска-патрыятычны) хрыбет, але якія не цураюцца этыкету гендарнай роўнасці: напрыклад, ахвотна карыстаюцца зваротамі: «panie i panowie» (спадарыні і спадары) ці «obywatelki i obywatele» (грамадзянкі і грамадзяне). Гэта дэманструе гатоўнасць да дыялогу з прадстаўнікамі розных сфераў грамадства (у тым ліку з феміністкамі і актывістамі LGBT) і паказвае цудоўнае валоданне новымі формамі камунікацыі (каманда Дуды выдатна вяла кампанію ў сацыяльных сетках).

Для польскага грамадства, дый для ўсёй Еўропы, перамога Дуды азначала руйнаванне догмы, што кансерватызм — гэта стагнацыя, нацыянальныя каштоўнасці — паталогія, а хрысціянства — фанатызм. Дуда — гэта прэзідэнт кансерватыўнай альтэрнатывы, той альтэрнатывы, дзе само слова «кансерватызм» становіцца вельмі ўмоўным, бо азначае не захаванне status quo і страх перад навізной, а якраз наадварот — смелы і энергічны выклік лева-ліберальнаму мейнстрыму.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Адрозненне цяперашняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ад трох папярэдніх заключаецца ў тым, што дзеючы кіраўнік дзяржавы не ў стане прад'явіць сваім выбаршчыкам чарговага спісу пазітыўных вынікаў. Абмяжуемся адным прыкладам: рост ВУП па выніках чацвёртай пяцігодкі прагназуецца ў 10 разоў ніжэй за запланаваны.

**«Регнум» (Расія)**

Беларускі рубель зноў пераадолеў «псіхалагічную мяжу» і патаннеў у адносінах да долара на 5% у параўнанні з пачаткам мінулага тыдня, калі тэндэнцыя яго ўмацавання змянілася паслабленнем. Эксперты нагадваюць, што штуршком для падзення беларускай нацыянальнай валюты паслужыла дэвальвацыя ў Расіі, якая, у сваю чаргу, выклікана падзеннем коштаў на нафту. Мясцовыя аналітыкі адзначаюць, што цяпер складваецца сітуацыя, аналагічная мінулагодняй, аднак улады Беларусі дзейнічаюць зусім іншым чынам. Калі ў мінулым годзе расійскі рубель падаў, а беларускі ўмацоўваўся, што загубіла ўвесь беларускі экспарт, то цяпер улады, мяркуючы па ўсім, не маюць намеру штучна ўтрымліваць нацыянальную валюту.

**«Независимая газета» (Расія)**

Паездка Пятра Парашэнкі на інаўгурацыю Лукашэнкі разглядаецца. Але калі ён паедзе, то адзіным замежным госцем не будзе. Лукашэнка ў апошні час ужо не знаходзіцца ў такой ізаляцыі, як раней. Да яго прыязджаюць прадстаўнікі Сярэдняй Азіі, Малдовы. Магчыма, захоча паехаць новы прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда.

**«Комсомольская правда в Украине» (Украіна)**

Уцекачоў з Украіны, якія знаходзяцца ў Беларусі, хутка можа чакаць непрыемны сюрпрыз. Гэтай восенню для іх будуць рэзка скарочаныя магчымасці для працаўладкавання ў суседняй краіне. Гэта звязана з агульнай лініяй уладаў, якія вырашылі, што прыток тысяч чалавек з поўдня становіцца занадта вялікім цяжарам для эканомікі Беларусі, якая і так якая знаходзіцца не ў лепшым стане.

**«Новые Известия» (Расія)**

Інтарэсы Беларусі простыя — выкарыстоўваючы Украіну, выйсці на еўрапейскія рынкі. У тым ліку ў абыход санкцый. Рашэнне простае — стварэнне СП з украінскімі партнёрамі, што ўжо адбываецца. І гэты працэс будзе толькі развівацца. Прычым падыход знаходзіць разуменне на беразе Дняпра. Так, на пасяджэнні міжурадавай камісіі віцэ-прэм'ер рэгіянальнага развіцця, будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Украіны Генадзь Зубко агучыў прапанову аб тым, каб вытворчасць тавараў, якія Беларусь хоча пастаўляць ва Украіну, часткова ажыццяўлялася на тэрыторыі Украіны. Гаворка ў першую чаргу ідзе пра аўтатэхніку і прадукцыю машынабудавання.

**«Хвиля» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. 95 гадоў Сеўрскай дамовы

Гісторыкі адзначылі 95-годдзе Сеўрскай дамовы (Treaty of Sèvres). Назва дакумента пайшла ад аднайменнай назвы прыгараду Парыжу, дзе ўлетку 1920 года сабраліся прадстаўнікі краін Антанты, каб вырашыць лёс Малой Азіі — часткі Асманскай імперыі, што прайграла Першую сусветную вайну. У выніку згаданая тэрыторыя была падзеленая на Турцыю і Арменію. Частка цяперашняй заходняй Турцыі адыходзіла да Грэцыі. Акрамя таго, Турцыя страціла выхад да Басфору, які пераходзіў пад міжнародны кантроль. Нарэшце, Турцыя дзялілася на зоны ўплыву — італьянскую, брытанскую, французскую. У прынцыпе, справа да імплементацыі пунктаў Treaty of Sèvres нават не дайшла з-за паўстання Атацюрка, які рэарганізаваў рэшткі асманскай арміі, дабіўся перамогі ў вайне з грэкамі, за якімі стаяла Антанта. Антанта, як следства, была вымушана канстатаваць статус-кво, і ў 1923 годзе ў Лазане пагадзілася на межы Турцыі, якія мала змяніліся дасюль. Цяперашняя гадавіна выклікала шмат дэбатаў наконт фактару курдаў у перамозе туркаў. Курды тады падтрымалі Атацюрка, які адмовіў ім у аўтаноміі. Працягвае той жа курс і Эрдаган, які абвясціў вайну курдскім сепаратыстам. Праўда, як лічаць гісторыкі, рашэнне курдаў падтрымаць Антанту ў барацьбе з Атацюркам таксама было б для іх фатальным. У выніку большасць курдаў цяпер жыла б на тэрыторыі Арменіі.

**Паводле італьянскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Кампартыю забаранілі

Камуністычная партыя Казахстана (КПК) зачыненая рашэннем спецыялізаванага міжраённага эканамічнага суда горада Алма-Аты. КПК зачыненая на падставе заявы міністэрства юстыцыі аб неадпаведнасці колькасці чальцоў партыі спісу, прадстаўленаму самой кампартыяй. Згодна з законам аб палітычных партыях Казахстана, неабходная для рэгістрацыі колькасць чальцоў партыі — 40 тысяч паўналетніх грамадзян краіны, а ў Кампартыі налічылі толькі 38 тысяч. Самі камуністы кажуць, што іх прыхільнікаў у Казахстане больш за 56 тысяч. На іх думку, прычына забароны — у тым, што ўлада не прабачыла камуністам падтрымкі рабочага пратэсту ў Жанаазене, які скончыўся расстрэлам яго ўдзельнікаў. Па-другое, камуністы як легальная партыя фактычна былі дахам для апазіцыянераў, якія не маглі атрымаць рэгістрацыю. Застаецца дадаць, што ў Казахстане дзейнічае таксама праўладная «Народная камуністычная партыя». Таму казаць пра поўную забарону ў Казахстане структур камуністаў, як ва Узбекістане, Туркменістане, Грузіі і краінах Балтыі, пакуль няма падстаў.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Адрадзіўся чэмпіянат ГДР

Так жартуюць футбольныя спецыялісты, каментуючы старт 3-й Бундэслігі ФРГ. Так атрымалася, што ў лігу трапілі былыя клубы-легенды футбольнага чэмпіянату Усходняй Германіі — «Дынама» (Дрэздэн), «Ганза» (Росток), «Энергія» (Котбус) і г.д. Толькі трацiна камандаў у гэтым эшалоне з Захаду. Пасля ліквідацыі чэмпіянату ГДР каманды былі ўключаныя ў склад 1-й і 2-й Бундэслігі, аднак утрымацца там не здолелі. Пасля фіяска клубы былой ГДР галоўным чынам гулялі ў рэгіянальных дывізіёнах, пакуль не адбылася рэформа і не была заснаваная тая самая 3-я Бундэсліга. Палітычныя каментатары прызнаюць, што новая ліга ўзмацніць настальгію сярод усходніх немцаў па старых часах, хаця ў свой час практычна ўсе аматары футболу ГДР арыентаваліся на Бундэслігу як на эталон нямецкага футболу. Таксама некаторыя баяцца, што 3-я Бундэсліга стане асяродкам футбольнага расізму, паколькі фанаты ГДР былі моцна звязаныя з рухам нацыстаў-скінхэдаў. Аднак пакуль усе ідзе мірна, а некаторыя матчы каманд далёка не першага ўзроўню збіраецца да 20 тысяч заўзятараў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Забаранілі чорныя сцягі

З'яўленне ў адным з раённых цэнтраў чорнага сцяга стала пралогам да рэпрэсій рэспубліканскага маштабу. Дасюль не зразумела, што гэта быў за сцяг і якія былі матывы яго вывешваць, аднак улады ўбачылі ў гэтым салідарнасць з Ісламскай дзяржавай (ІД), якая мае, як вядома, чорны штандар. Паколькі на баку ісламістаў ваююць каля 500 таджыкаў, пагроза прарыву ў Таджыкістан баевікоў лічыцца дастаткова рэалістычнай. Магчыма таму пасля таго, як той сцяг з'явіўся, па райцэнтру пракацілася хваля затрыманняў і допытаў. Калі верць прэсе, усе жыхары даюць паказанні органам праваапарадку. Па тэлевізіі перадаюць інфармацыю пра тое, што раскрытая блізкая да тэрарыстаў групоўка. На цяперашні момант затрыманыя 4 асобы, якія кажуць, што хацелі проста пажартаваць. Каментатары прызнаюць, што паводзіны ўлады яўна не адэкватныя і хутчэй робяць ІД рэкламу.

**Паводле таджыкскай прэсы**

# Новая старая ўнія

**Заява былога румынскага прэзідэнта Траяна Бэсеску пра неабходнасць рэферэндуму аб аб'яднанні Румыніі і Малдовы выклікала рэзананс. Чаму? Пра гэта журналісту НЧ Алегу Новікаву расказвае малдоўскі грамадскі актывіст Сяргей Чос.**

***— Лозунгі аб уключэнні Малдовы ў склад Румыніі гучаць увесь час, пачынаючы яшчэ з часоў перабудовы, прычым справа так і не зрушылася. Чаму выказванні Бэсеску звярнулі на сябе ўвагу?***

— На першы погляд, нічога новага былы прэзідэнт сапраўды не сказаў. Тым больш, уніянізм — гэта старая карта некаторых малдаўскіх і румынскіх палітыкаў, якой яны карыстаюцца час ад часу, каб нагадаць аб сваёй прысутнасці на палітсцэне. Мяркую, што заяву Бэсеску можна было прачытаць і забыць, калі б не вельмі напружаная сітуацыя ў нашым рэгіёне, выкліканая ўкраінскім канфліктам. Другі момант — імклівая дэвальвацыя еўранастрою ў малдаўскім грамадстве, што стварае рызыку ўзмацнення прамаскоўскага вектара. Бэсеску даў зразумець, што Румынія сочыць за працэсамі ў Малдове і вакол яе.

***— З улікам таго, што год таму малдаване атрымалі бязвізавы рэжым з ЕС, прычыны іх еўраскептыцызму не вельмі зразумелыя.***

— Расчараванне выклікала тое, што біяметрычная пашпарты, па якіх можна наведаць еўразону без візы, не даюць права на працу. Ёсць таксама вельмі жорсткія патрабаванні наконт колькасці грошай, якія павінен мець уладальнік такога пашпарту. Пасля стольких гадоў чакання высветлілася, што прасцей і зручней было даўно набыць румынскі пашпарт, які дазваляе працаваць у Еўропе і не патрабуе розных даведак аб тваім фінансавым стане. Другая крыніца песімізму звязаная з наступствамі эканамічнай Асацыяцыі з ЕС. Кішынёву не ўдалося дабіцца вялікай квоты на еўрарынку вінаў і садавіны, што ўдарыла па гэтаму сегменту вытворчасці. Лепшай ілюстрацыяй падзення інтарэсу да ЕС сталі чэрвеньскія мясцовыя выбары, якія зафіксавалі абвал даверу да партый — сябраў праеўрапейскай урадавай кааліцыі. Паўстаў нават новы рух так званых «сапраўдных еўраінтэгратараў» — прыхільнікаў ЕС, якія трымаюць дыстанцыю ад ураду. З'явіліся і новыя ўніяністы, якія прапануюць ідэю ўваходу Малдовы ў Еўрасаюз праз унію з Румыніяй.

***— Сярод міністраў цяперашняга праеўрапейскага ўраду Малдовы шмат асобаў, якія маюць імідж уніяністаў. Чаму кабінет не зрабіў канкрэтных крокаў у гэтым накірунку?***

— Гістарычна канцэпцыя уніянізму не прадугледжвае аўтаноміі Малдовы ў складзе Румыніі. Натуральна, цяперашнімі міністрам не хочацца перакваліфікацыі ў румынскіх правінцыйных чыноўнікаў. Увогуле, гісторыя Малдовы ў складзе Румыніі ў 1918–1940-х сведчыць пра сталы комплекс бухарэсцкай эліты да выхадцаў з нашага краю. Рэкрутаў-малдаван у часы Другой сусветнай вайны нават не дасылалі на перадавую, апасаючыся здрады.

***— Не так даўно ў Букавіне, якая да вайны таксама была часткай Румыніі, мелі месца беспарадкі, выкліканыя мабілізацыяй у румынскамоўных вёсках. Там адмовіліся дасылацца прызыўнікоў ва ўкраінскую армію. Як рэагуе Бухарэст***

**700**

**тысяч малдаван працуе ў Расіі, і яны баяцца, што Кіеў можа забараніць транзіт іншаземцаў праз сваю тэрыторыю ў Расію**




***на такія этнічныя пратэсты ва Украіне?***

— Хаця афіцыйныя колы намагаюцца ігнараваць падобную інфармацыю, каб не падрываць партнёрскія адносіны з Украінай, палітыкум дапускае падтрымку Румыніяй сваіх суайчыннікаў у Букавіне і Бесарабіі. Ёсць сігналы, якія сведчаць пра тое, што такі сцэнар разглядаецца ў кантэксце спекуляцый, што Украіне з-за розных выклікаў пагражае лёс falled state.

***— Як малдаване ставяцца да сітуацыі ва Украіне?***

— Абсалютнай большасці маіх суайчыннікаў характэрныя пацыфісцкія погляды, што выклікана эканамічнымі чыннікамі. Каля 700 тысяч малдаван працуе ў Расіі, і яны баяцца, што Кіеў можа забараніць транзіт іншаземцаў праз сваю тэрыторыю ў Расію. Праўда, ёсць і такія, якія адчулі прыліў нацыянальнага гонару, маўляў, Украіна замяніла Малдову ў хітпарадзе «Самая бедная краіна ў Еўропе», а ў Кішынёве часам можна нават пабачыць украінскіх прадпрымальнікаў, якія пераводзяць сюды свой бізнес. Нельга абысці тое, што ў грамадстве захавалася траўма пасля прыднястроўскага канфлікту 1992 года. Ніхто не чакаў столькі крыві і гвалту. Гэта вельмі ўразіла простых людзей і зрабіла прышчэпку ад ідэі дабіцца нечага праз вайну.

***— Якая сітуацыя зараз у Прыднястроўі?***

— Як ні парадаксальна, аднак больш за ўсё сярод рэгіянальных урадаў сёння несалодка ўраду Прыднястроўя. Справа не ў наступствах палітыкі Кіева эканамічна заблакаваць прарасійскі анклаў. Аказалася, што тубыльцы, якіх амаль 20 гадоў песцілі ідэямі пра тое, што ПМР — апошні кавалак СССР, аказаліся не гатовыя да рынкавых рэформаў, якія вымушана праводзіць улада. Літаральна толькі ўчора ў Цірaспалі адбыліся арышты пенсіянераў, якія выйшлі на вуліцы. У лютым былі сапраўдныя хваляванні рабочых. Нагадаю, што гаворка ідзе пра пратэсты ва ўмовах вельмі аўтарытарнага рэжыму, які раней без роздуму знішчаў сваіх апанентаў.

***— Якія вашы прагнозы для Малдовы і рэгіёну?***

— Шмат будзе залежыць ад таго, ці адбудуцца пазатэрміновыя выбары ў малдоўскі парламент. Не так даўно ў Малдове банкрутамі з-за выкрадання грошай сталі адразу тры банкі. Самае цікавае, што грошы так і не знайшлі, затое кампенсаваць страты вырашылі за кошт бюджэту. На думку шмат каго, тыя «выкрадanні» — не што іншае, як частка плану эвакуацыі цяперашніх урадавых чыноўнікаў, якія разумеюць, што ім ужо нічога ў палітыцы не свеціць. Пытанне ў тым, хто можа прыйсці на месца цяперашняй кааліцыі?



# Сацыяліст ідзе ў Белы дом

Алег НОВІКАЎ

**Хілары Клінтан — фаварыт праймерыз ад дэмакратаў — імкліва губляе рэйтынг на фоне сацыяліста Берні Сандэрса.**

На гэтым этапе прэзідэнцкая кампанія ў ЗША характарызуецца перш за ўсё фрондай, якую партыйны базіс вядзе супраць партыйнай эліты. На практыцы гэта праяўляецца ў падтрымцы на праймерыз тых палітыкаў, якіх учора лічылі амаль што фрыкамі.

У лагеры рэспубліканцаў гэта, безумоўна, мільярдэр Дональд Трамп, які амаль штодня шакуе аўдыторыю новымі скандальнымі заявамі, якія парушаюць усе нормы палітычнай карэктнасці. Апошняя выхадка Трампа — заклік пабудаваць «вялікую, прыгожую» сцяну, каб спыніць націск мігрантаў, а таксама прапанова пачаць масавыя дэпартацыі грамадзян ЗША, якія нарадзіліся ад нелегалаў. Нягледзячы на відавочную абсурднасць прапановы, як, дарэчы, і іншых трампаўскіх пражэктаў, іх аўтар захоўвае лідарства ў гонцы прэтэндэнтаў ад рэспубліканцаў, абганяючы бліжэйшага суперніка на 10 пунктаў.

«Трампаманія», якая як кампутарны вірус захапіла нізавыя структуры рэспубліканцаў, натуральна, не магла не радаваць дэмакратаў. На фоне катавасіі ў лагеры рэспубліканцаў шансы Хілары Клінтан (яе нефармальна лічылі кандыдатам ад дэмакратаў) падаваліся стоадсоткавымі. Аднак цяпер ад былога аптымізму не засталося і следу. Прычына — у дэмакратычным лагеры завёўся свой Дональд Трамп.

Знаёмцеся — Берні Сандэрс, сенатар ад штату Вермонт. Калі Берні абвясціў пра намер балатавацца ў амерыканскія гаранты, гэта ўспрынялі як своеасаблівы піяр або спробу данесці да публікі сацыялістычную павестку дня. Справа ў тым, што Сандэрс мае імідж самага левага палітыка ў асяродку дэмакратаў. Ён нават неяк публічна абурыўся, што яго назвалі «дэмакратам», патрабуючы ўжываюць слова «дэмакратычны сацыяліст». Яго рыторыка будуецца галоўным чынам вакол тэмы экалогіі і абароны сярэдняга класа, якім пагражае маргіналізацыя.

Спачатку гэта ўсё выглядала забаўна. Хілары Клінтан нават афіцыйна павіншавала Сандэрса з яго вылучэннем. Аднак па ходу кампаніі стаўленне да Берні ў грамадстве пачало мяняцца. Нечакана для ўсіх сярэднестатыстычны выбаршчык дэмакратаў зацікавіўся ідэямі і асобай Сандэрса. Яго мітынгі пачалі стала збіраць шматтысячныя натоўпы. Прыкладна з лютага працэнт падтрымкі Сандэрса вырас з 15 да 38 пунктаў. У той жа час прыхільнікаў Хілары Клінтан у працэнтным вымярэнні стала заўважна менш. Калі ў лютым ёй сімпатызавалі 65 працэнтаў аднапартыйцаў, то цяпер каля 50.

**У амерыканскай прэсе з'явіліся першыя публікацыі, дзе разглядаюцца шансы Сандэрса ўжо як не прэтэндэнта ў кандыдаты, а кандыдата ад дэмакратаў**

Аналізуючы трэнд, сацыёлагі кажуць, што прыкладна так стартаваў у свой час Барак Абама, у перспектыву абрання якога мала хто верыў. Чым растлумачыць феномен Сандэрса, ці сапраўды здольны ён адабраць у Клінтан мандат і ці будзе прадстаўляць дэмпартыю на выбарах–2016?

Па-першае, ён можа прыцягнуць падтрымку іншых кандыдатаў, якія спрабуюць аспрэчыць намінацыю Клінтан. Гэта каля 10–15 працэнтаў. Берні можа дапамагчы навіна з-за акіяна: у Вялікабрытаніі блізкі да перамогі на ўнутрыпартыйных выбарах лейбарыстаў аднадумец — вельмі левы Джэрымі Корбэн.

Але галоўны джокер Сандэрса, як піша «Washington Post», яго энергетыка, характэрная неафіту, які ў першы раз бярэцца за новую справу і намагаецца дасягнуць вынік, робячы шмат памылак. Гэта дапамагае Берні выглядаць у вачах выбаршчыка сваім чалавекам. У Клінтан няма такога ваяўнічага тонусу, яна выглядае як арыстакратка. Яна вядзе кампанію без эмоцый, як прапісана ў падручніках па палітпіяру. Менавіта таму ў ліпені яна рассылала электронныя лісты, а Сандэрс збіраў стадыёны.

Вельмі кепска адбіліся на іміджы Хілары Клінтан і падабязнасці збору сродкаў на яе кампанію. Донарамі Клінтан выступае буйны бізнес, хаця самі дэмакраты на публіцы ахвотна выступаюць за абмежаваны ўдзел бізнесу ў палітыцы. Сярод спонсараў Хілары Клінтан фігуруюць кампаніі з вельмі кепскім экалагічным крэда, што адразу адштурхнула ад яе экалагічную супольнасць. Гэта вельмі не падобна на збор сродкаў, якія вядзе Сандэрс. 80 працэнтаў бюджэту яго кампаніі — гэта ўнёскі менш за 200 долараў. То бок акумуляцыя фінансаў ідзе за кошт простых амерыканцаў. 12 жніўня «Boston Herald» апублікаваў вынікі апытання ў штаце Нью-Гемпшыр, дзе пройдуць першыя праймерыз. Паводле іх, Сандэрс з 43 працэнтамі абыходзіць Клінтан, у якой толькі 38 працэнтаў.

Безумоўна, прэзідэнцкая кампанія 2016 года па сутнасці яшчэ ў стадыі пачатку, і выдаваць сур'ёзныя прагнозы рана. Аднак сімптаматычна, што на мінулым тыдні ў амерыканскай прэсе з'явіліся першыя публікацыі, дзе разглядаюцца шансы Сандэрса ўжо як не прэтэндэнта ў кандыдаты, а кандыдата ад дэмакратаў. Як ні парадаксальна, але большасць калумністаў лічыць, што сацыяліст можа стаць гаспадаром Белага дома. Праўда, толькі ў тым выпадку, калі яго супернікам будзе Дональд Трамп.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэфат Чубараў



У Кіеве адзін з лідараў крымскіх татар раскрытыкаваў словы ўкраінскага прэзідэнта Пятра Парашэнкі, які ў выпадку вяртання Крыму ў склад Украіны паабяцаў татарам нацыянальна-культурную аўтаномію. Па словах Чубарава, крымскія татары разлічваюць як мінімум на нацыянальна-тэрытарыяльную аўтаномію. Па яго словах, гэта было б актам аднаўлення гістарычнай справядлівасці, паколькі сімвалізавала б адраджэнне крымска-татарскай дзяржаўнасці, якую знішчыла Расійская імперыя. Ініцыятыва Чубарава выклікала шмат каментараў. Каментатары спрачаюцца наконт таго, ці не ёсць аўтаномія занадта вялікай цаной за праўкраінскую пазіцыю Меджэліса. Акрамя таго, такая аўтаномія яўна патрабуе зменаў у Канстытуцыі і прызнанне правоў малых этнасаў, што здольна справакаваць аналагічныя апетыты ў іншых нацменаў, і ў тым ліку рускіх. Праўда, на думку палітолагаў, Кіеў будзе абяцаць крымскім татарам усё што заўгодна, паколькі яму трэба захаваць сімпатыі часткі насельніцтва Крыма, якая выступае за вяртанне паўвострава ў склад Украіны. Іншая справа, ці будуць выконваццa цяперашнія абяцанкі.

### Роберт Мугабэ



Прэзідэнт Зімбабве нягледзячы на ўзрост, абараняе суверэнітэт і гонар краіны. Той гонар, на яго думку, зневажаюць супрацоўнікі Брытанскага музею натуральнай гісторыі, якія кепска абыходзяцца з чарапамі жыхароў Зімбабве. Гэтыя чарапы належалі групе тубыльцаў, якія спрабавалі чыніць супраціў брытанскім каланізатарам напрыканцы XIX стагоддзя на тэрыторыі цяперашняй Зімбабве. Перамога, аднак, аказалася на баку брытанцаў, якія ўзялі чарапы афрыканскіх ваяроў у якасці трафеяў. Выступаючы з нагоды нацыянальнага свята Памяці барацьбы з каланізатарамі, Мугабэ заявіў, што знаходжанне тых чарапоў у музейнай экспазіцыі — «праява расісцкага дэкадансу». Каб не дапусціць здзекаў з парэшткаў суайчыннікаў, Мугабэ афіцыйна патрабаваў рэпатрыяцыі чарапоў. Пасля вяртання на радзіму яны будуць пахаваныя ў спецыяльным мемарыяле герояў вайны з белай гегемоніяй. Тым часам мясцовая апазіцыя смяецца з папулісцкай ініцыятывы Мугабэ. Звяртаецца ўвага на тое, што ў мясцовым сталічным музеі таксама ёсць чарапы, напрыклад, старажытных аўстралійскіх абарыгенаў. Паводле логікі Мугабэ, іх трэба як мага хутчэй перадаць ураду Аўстраліі.

### Рауль Кастра



Прэзідэнт Кубы пачаў выконваць адну з умоў пагаднення з ЗША, якое дазволіла афіцыйна прызнаць камуністычны рэжым у Гаване. Гаворка пра пашырэнне правоў кубінцаў на доступ да інтэрнэту. 12 жніўня Кастра афіцыйна дазволіў выкарыстанне на востраве Свабоды WiFi. Лічыцца, што раней кубінскія ўлады проста баяліся некантраляванага доступу моладзі да інтэрнэту. Першы перадатчык WiFi пачаў працаваць на базе аднаго з моладзевых кафэ ў Гаване. Паспрабаваць, што такое WiFi, прыйшло некалькі сотняў тысяч людзей (шмат хто з іх увогуле першы раз пабачыў, што такое інтэрнэт). Сведкі падзеі кажуць, што прысутныя нават плакалі ад шчасця і казалі, што марылі пра гэты момант усё жыццё. На цяперашні час па ўсёй краіне дазволена праца 35 кропак сістэмы WiFi. Праўда, да поўнай дэмакратыі вельмі далёка. Дзякуючы кітайскім тэхналогіям праз тыя кропкі WiFi нельга наведаць апазіцыйныя сайты. Акрамя таго, каб карыстацца WiFi, трэба абавязкова з пашпартам набыць спецыяльную картку. Нарэшце, кубінскі WiFi — далёка не танная рэч. Пасядзець гадзіну ў WiFi каштуе адзін долар, а сярэдні заробак у краіне складае каля 20 долараў на месяц.

# Віктар Марціновіч: я зразумеў, што такое

**У тым, што Віктар Марціновіч лічыцца адным з культавых маладых пісьменнікаў Беларусі, пераконваць нікога не трэба, але далёка не ўсе ўяўляюць, што за гэтым стаіць. Я літаральна быў уражаны творчым нонканфармізмам майго земляка. Думаю, вам будзе цікава пачытаць тое, што Віктар расказвае пра сябе сам.**

**Аляксандр Тамковіч**



Пад платанамі ў Ляйпцыгу

## Ашмянскі далягляд

9 верасня 1977 года я нарадзіўся ў родных для маёй маці Ашмянах, але пражыў там усяго некалькі месяцаў — бацькі пераехалі ў Мінск. Далей пачынаецца цікавая гісторыя, бо я быў упэўнены, што з таго часу жыў толькі ў Мінску. Літаральна год таму высветлілася, што гэта не так.

Аказалася, у Мінску я прабыў толькі больш за тыдзень. Бацькі жылі на здымнай кватэры, не маглі мяне даглядаць і заслалі ў Барбарова, дзе жылі дзед з бабай і адкуль родам мой бацька, Валеры Андрэевіч Марціновіч. Так што першыя тры гады майго жыцця былі вясковымі.

Ва ўзросце некалькі тыдняў бабуля па кудзелі адвезла мяне ў Меднікі і пахрысціла ў каталіцкім касцёле.

Дзявочае прозвішча маці — Дыяна Іосіфаўна Гудзінская. Некалькі гадоў у Ашмянах яны жылі ў самым пачатку вуліцы Зарэчнай, чыя назва гаворыць пра сутнасць. Прыватны дом, даволі круты абрыў, а ўнізе рэчка Ашмянка. Потым пераехалі ў канец вуліцы Савецкай, якая раней называлася па-рознаму, але больш вядомая мясцовым жыхарам як Жупранская. Дарэчы, Савецкай яна стала адразу пасля акупацыйнай Вермахтштрасэ.

Там ужо была кватэра з усімі выгодамі і балконам «на Літву».

Я вельмі люблю Ашмяны. Асабліва тыя, што былі раней, з цудоўнай ліпавай алеяй на ўездзе ў горад з боку Смаргоняў. На жаль, перад прыездам на мяжу Лукашэнкі яе спілавалі і зрабілі старажытны горад падобным на звычайную калгасную сядзібу.

Кожнае лета некалькі тыдняў я праводзіў у Ашмянах, а потым два месяцы ў Барбарова, дзе, як у любой вёсцы, даводзілася шмат працаваць. Пасвіць кароў, напрыклад, альбо прапалваць буракі. Зразумела, Ашмяны я люблю больш. Горад усё ж такі.

Калі я нарадзіўся, маці вучылася на пятым курсе Медінстытута, які потым і скончыла. Пасля родаў у яе дыягнаставалі рассеяны склероз. Хвароба каварная і бязлітасная. Яшчэ да гадоў пяці я бачыў, як яна хадзіла, а потым села ў інваліднi вазок і больш не паднялася на ногі.

Часы тады былі вельмі складанымі — пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Пенсія па інваліднасці ў маці складала толькі некалькі долараў. Бацьку прыйшлося шмат працаваць.

Са страшнай хваробай маці пражыла 20 гадоў. Амаль у два разы больш звычайнага, што сведчыць пра вельмі добры догляд. Гэта камплімент майму бацьку!

Ён вельмі любіў маці, і нават калі сваякі прапаноўвалі яе кінуць і сысці разам са мной, не пагадзіўся. Хаця зараз ён жыве з другой жанчынай, што цалкам нармальна і лагічна.

## Дзе стаць пісьменнікам?

Спачатку ў 171-й школе я вучыўся вельмі дрэнна. Да апошніх класаў, калі перабудова ператварылася ў сапраўднае адраджэнне. Памятаю, што самым цікавым прадметам стала гісторыя, таму што гісторык літаральна на вачах раптам змяніўся і пачаў расказваць дзіўныя рэчы. Напрыклад, пра ВКЛ. Гісторыя стала сапраўднай, і гэта вельмі спадабалася вучням.



Валеры Андрэевіч Марціновіч

Менавіта тады я падышоў да бацькі і спытаў, куды пайсці вучыцца, каб потым стаць пісьменнікам? На той час я ўжо нешта (накшталт апавяданняў) пісаў. Бацька адказаў, што на філалагічны факультэт ісці не варта, бо там рыхтуюць выкладчыкаў літаратуры і мовы, і параіў стаць журналістам. Так я і зрабіў.

Паступіць атрымалася на платнае аддзяленне. Грошы ў бацькі былі толькі на тое, каб аплаціць першы курс, таму мне адразу трэба было шукаць працу. Так у 1995 годзе я трапіў у «Беларускую дзелавую газету», дзе даволі хутка ўзначаліў палітычны аддзел. Там у мяне з'явіліся першыя сапраўдныя сябры. Добры быў час. Мне пашанцавала папрацаваць з Паўлам Шараметам. Гэта быў вельмі добры настаўнік, аднак вельмі строгі і нават суворы кіраўнік.

З другога курса на журфаку мяне перавялі на бясплатнае навучанне, і ўсе грошы, якія я зарабляў, можна было траціць на кнігі. Я купіў усяго Чэхава.

Факультэт журналістыкі скончыў фактычна з чырвоным дыпломам, і адразу паступіў у аспірантуру, займаўся распрацоўкай тэмы віцебскай мастацкай школы. Аддаў гэтай справе чатыры гады жыцця. Аднак абараніць сваю працу не здолеў. Ці то Марк Шагал быў непажаданым для таго часу, ці то нейкія мае палітычныя публікацыі і выказванні прыйшліся не даспадобы, аднак дату абароны дысертацыі не прызначылі. І гэта пры тым, што праца была рэкамендавана да абароны. Усё павісла на ўзроўні рэктара БДУ.

У 2006 годзе, праз знаёмства з Альмірай Усманавай і Андрэем Горных, атрымаў прапанову прыехаць у Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (ЕГУ) і пачаць з імі супрацу. У Вільні скончыў нешта накшталт падрыхтоўчых курсаў, здаў усе патрэбныя іспыты і ў 2008 годзе абараніў-такі зробленую яшчэ ў Беларусі аспіранцкую працу ў Вільнюскай акадэміі мастацтваў. Я стаў першым доктарам навук ЕГУ.

Праз семестр атрымаў дацэнта. Пасля тры семестры кіраваў Дэпартаментам сацыяльных і палітычных навук ЕГУ. Потым было рашэнне аб'яднаць яго з іншым дэпартаментам і значна скарацiць колькасць тых, хто чытае лекцыі. Стала зразумела, што адміністрацыйная пасада — не маё, і я напісаў адпаведную заяву.

Стаў звычайным, шараговым выкладчыкам. Зараз тыдзень на месяц жыву ў Вільні.

Увосень 2014 года атрымаў вельмі вялікую і вельмі прэстыжную прапанову ад Венскага інстытута гуманітарных навук дапісаць кніжку пра Марка Шагала ў Віцебску. Правёў у Вене тры месяцы, скончыў працу.

У лістападзе яна была прэзентавана ў Вене. Прыйшло вельмі шмат людзей. У тым ліку і са знакамітай галерэі Альбярціна. На жаль, беларускамоўнага варыянта кнігі пакуль няма. Абіраем выдавецтва, таму што менавіта зараз з-за дэфіцыту фінансаў ЕГУ скарачае сваю выдавецкую праграму. Спадзяюся, што кадравыя пературбацыі ЕГУ дазволяць захаваць арыенціры на беларушчыну.

## Варта вандраваць

Мабыць, гэта пачалося яшчэ ў дзяцінстве. Хто быў у Ашмянах, ведае, што там захаваліся руіны касцёла францысканцаў. Гэта мая ўлюбёная будыніна ў свеце. Мае вандроўкі, захапленне старажытнасцю пачаліся менавіта там.

Той касцёл я злазіў увесь, і кожны раз, калі я прыязджаю ў Ашмяны, іду туды, каб упэўніцца, што цудоўны будынак яшчэ стаіць. У ім зяяюць вялізарныя дзіркі — бальшавікі безвынікова спрабавалі ўзарваць.

А першае дарослае падарожжа адбылося тады, калі я яшчэ быў студэнтам. З сябрам Міцем мы вырашалі аўтаспынам паехаць у Санкт-Пецярбург. Гэта было адно з самых вар'яцкіх падарожжаў, таму што, як толькі мы выйшлі на трасу, адчулі сваю непадрыхтаванасць да такіх вандровак.

Быў сакавік. Мы былі вельмі лёгка апранутыя. На жаль, амаль адразу спынілі фуру, якая падвезла да беларуска-расійскай мяжы. Выйшлі і напоўніцу ўсё адчулі — мінус тры, снег. У Міці не было нават шапкі. Першая гадзіна ночы. Пешшу мы прайшлі 60 кіламетраў да Смаленска. Былі там толькі ля шостай вечара. Ледзь выжылі.

Потым (ужо пасля вучобы) на доўгія травеньскія выходныя я з'ездзіў у Арменію і зразумеў, што гэта вельмі цікава і плённа. Праз такія падарожжы ўсведамляеш, што, не пабачыўшы свет, дагэтуль ты не цалкам разумеў сэнс некаторых базавых словаў. Накшталт дабра і зла, прыгажосці і галечы.

Пасля гэтага пачалася Азія. Пачалася з самай найгоршай краіны для пачаткоўцы-падарожніка. Нікому не раю туды ехаць спачатку. Гэта — Індыя.

У Нью-Дэлі я ледзь не звар'яцеў ад першых уражанняў. Гэта горад для падрыхтаванага вандроўніка і вельмі складаны для дзікага вандравання. Памятаю свае першыя гадзіны. Калі ў пошуках гатэля я ішоў па вуліцы, то думаў, што трапіў у нейкі дрэнны квартал. Там не было не проста тратуараў, а ніякай розніцы паміж тым, дзе людзі ходзяць, ездзяць іх матацыклы і месцамі, дзе яны спяць.

Ты раптам разумееш, што гатэль, які ты замовіў праз інтэрнэт, літаральна знаходзіцца на звалцы. Ён атачаны горамі бруду. Праз гадзіну разумееш, што звалкай з'яўляецца ўвесь Нью-Дэлі, таму што такога канцэпту, як сметніца, там няма ўвогуле. І ніколі не было. Некалі англічане паспрабавалі патлумачыць, што гэта такое, але безвынікова. Індусы, як і раней, кідаюць усё пад ногі.

Прусакі, пацукі, геконы і г.д. — увесь час вакол цябе.

Хадзіць па гораду яшчэ страшна таму, што ў любы момант цябе могуць абрабаваць. Любы (падкрэсліваю — любы), хто з табой загаворвае на вуліцах, з'яўляецца (як бы гэта мякчэй сказаць) крыху махляром. Калі ты высвятляеш па мапе, як прайсці да неабходнага аб'екта, і нехта бярэцца дапамагчы, ён гарантавана прывядзе ў другое месца, у фірму, дзе цябе абавязкова падмануць.

Праз тыдзень у цябе наступае нервовы зрыў, яшчэ праз два тыдні ты атрымліваеш такое атручванне, што думаеш — памру, а яшчэ праз тыдзень бачыш Гімалаі і разумееш, што нічога прыгажэйшага ў жыцці раней не бачыў і такіх прыгожых гор больш не пабачыш.

З Індыі пачаліся мае далёкія вандроўкі. Я спрабую мінімум раз на год месяц праводзіць у нейкім падарожжы. Гэта вельмі добрая разрадка. Я амаль не ўжываю алкаголь, не палю тытунь, таму дрэнную энергію, якая назапашваецца ў арганізме, выганяю ў падарожжах. Вандроўкі ў гэтым сэнсе надзвычай карысная рэч.

Я ўжо быў акрамя Індыі, у Малайзіі, В'етнаме, Інданезіі,

# пісьменніцкі драйв

М'янме, Камбоджы. У Еўропе быў усюды, акрамя Ліхтэнштэйна і Партугаліі. Днямі вярнуўся з Вільні, куды прыехаў з вялікага падарожжа па Іспаніі. Праехаў фактычна ўсю Іспанію аўтаспынам. Альбо на рэгіянальных цягніках.

Гэта было вельмі крута, але і вельмі складана, таму што Іспанія — краіна, дзе існуе сапраўдны культ вопраткі, дзе вопратка з'яўляецца не эстэтычнай, а этычнай катэгорыяй. Калі ты апрануты абы-як (як валацуга-вандроўнік), на цябе глядзяць надта дрэнна. Ты для іх — амаль, што крымінальнік...

Спадзяюся, магчымасць павандраваць яшчэ будзе. Акрамя Егіпту я пакуль не быў нідзе ў Афрыцы і не наведаў ніводную краіну Лацінскай Амерыкі, адпаведна для чаго плану вывучыць іспанскую мову. Сёння акрамя беларускай, рускай моваў, ведаю яшчэ англійскую і французскую.

Вандроўкі — вельмі важны складнік майго жыцця.

Даволі часта ў мяне пытаюцца наконт грошай. Адкажу яшчэ раз — шмат іх не трэба. Чым іх менш, тым лепш, таму што іх адсутнасць вымушае цябе кантактаваць з людзьмі. А гэта самае каштоўнае ў любой вандроўцы.

Калі шмат грошай, ты можаш замовіць праз інтэрнэт гатэль, сесці ў самалёт і прыляцець у любую патрэбную табе кропку свету. Калі грошай мала, гэта вымушае думаць, кантактаваць, чакаць, часам нават прасіць.

Будысты кажуць пра тое, што варта жыць «тут і цяпер», што наш розум —гэта розум істот, якія ўвесь час шукаюць сабе праблемаў. Кошка, напрыклад, ніколі не думае, што здарыцца, калі гаспадар яе заўтра не пакорміць, а чалавеку гэта ўласціва. Асноўная наша задача — думаць толькі пра дадзены момант, пра тое, што цябе атачае зараз. Любая вандроўка вяртае цябе на зямлю ў існы момант. У гэтым уся прыгажосць, бо ён заўсёды непаўторны.

Бывае, ты ідзеш па спякоце з цяжкім плецаком за плячыма і не ведаеш, дзе будзеш сёння начаваць. Ідзеш 13 кіламетраў да гатэлю, дзе хутчэй за ўсё не будзе месцаў, бо ён пабудаваны на беразе мора. Хочацца піць, а вады нідзе няма. Яе наўмысна не прадаюць. Толькі кактэйлі, кошт якіх складае дзённы бюджэт...

Жыць «тут і цяпер» — каштоўная рыса. Праз 3–5 дзён такой практыкі ты прывязваешся да новага ладу і крыху па-іншаму пачынаеш жыць. Гэта не сыходзіць адразу. Ты вяртаешся ў Мінск, застаешся ваяром, які проста ідзе ў апошні шлях і прыжывае кожны дзень як апошні ў сваім жыцці. Дзеля гэтага варта вандраваць.

У вандроўках многія рэчы пачынаеш разумець глыбей. Той жа іслам, напрыклад. У Інданезіі, калі я дабраўся да маленькай выспы Тарнада і вельмі пасябраваў з адной мусульманскай сям'ёй, яны мне растлумачылі існую сутнасць ісламу. Да гэтага я вельмі шмат



На Франкфурцкім кніжным кірмашы

чытаў, і нават у турэцкай Блакітнай мячэці меў працяглую размову з мясцовым муфціем, але ў Інданезіі ўсё зразумеў лепш.

Трэба не паводзіць сябе нахабна, умець паважаць іншых. У Егіпце вахабіты так мне пачалі давяраць і так ацанілі маю цікавасць да ісламу, што на другі дзень знаёмства прапанавалі набыць аўтамат АК-47, а потым прывялі да суфійскага калдуна. І гэта пры тым, што суфізм — самая закрытая частка іх веры.

Усё залежыць ад чалавека. Калі ты нармальны, ніхто (акрамя «адмарозкаў») калечыць цябе за рэлігійныя перакананні не будзе.

Не так даўно я задумаўся над тым, што ў вандроўках запомнілася больш за ўсё. Хутчэй за ўсё, гэта гук будысцкіх званочкаў у Леху. Як і самі Гімалаі, дарэчы, бо калі ты ляціш на вышыні 10 тысяч кіламетраў і бачыш побач з самалётам вяршыні гор — гэта цуд! Калі я быў у М'янме, запомніўся ўсход сонца над Мандалаем. Запоўніўся Швідагон — самы вялікі будысцкі храм у свеце, што крыты ліставым золата. Дзед, які мне ў індыйскім Чынгігары растлумачыў сутнасць чалавечай кармы. Не забуду кіроўцу лодкі ў в'етнамскім Хуэне. Калісьці ён быў будысцкім манахам і падрабязна расказаў мне пра сутнасць гэтай веры...

Калі зараз азіраешся назад і ўсё пачынаеш аналізаваць, то разумееш, што жыццё атрымалася цікавым ужо да гэтага моманту, а колькі цікавага яшчэ можа чакаць наперадзе.

Аднак, з іншага боку, ёсць адчуванне, што, калі так шмат пабачыў, вельмі цяжка нечаму здзіўляцца. Адчуванне страты вастрыні ўспрыняцця. Здаецца, што яна згублена назаўсёды, і ты пачынаеш шукаць не столькі кропкі, якія цябе могуць уразіць, колькі таго сябе, які яшчэ можа гэтым уражвацца.

### Шляхам літаратуры

У 2008 годзе ў мяне здарылася адна гісторыя, якая натхніла напісаць пра каханне звычайнага (хаця і інтэлектуала) хлопца з дзяўчынай, якая набліжана да вузкага кола людзей, што маюць усё. Гэткая прынцэса, залатая моладзь.



Палёт на Як-40

> **Задача напісаць раман на беларускай мове выглядала недасягальнай. Я нават гаварыць па-беларуску не ўмеў**

Я пачаў гісторыю распрацоўваць, атачаць яе падрабязнасцямі. Прычым гэта было як нейкае насланне: я ўвесь час пра гэта думаў і не мог спыніцца. Думаў пра тое, як цікава было напісаць раман пра каханне двух маладых людзей, расказанае праз пратаколы праслухоўкі КДБ.

Хадзіў з гэтым год, дакладней, 10 месяцаў. Потым пачаў рабіць нататкі. Запісаў некалькі дыялогаў паміж галоўнымі героямі і сам не заўважыў, як праз даволі кароткі час сеў і напісаў раман «Паранойя».

Тэкст даслаў свайму сябру Антону Кашнікаву, які толькі-толькі выдаўся ў вядомым расійскім выдавецтве АСТ. Той яго пераслаў рэдактару. Кніжку пагадзіліся выдаць. Яна выйшла. І яе адразу забаранілі...

Дарэчы, як толькі яе знялі з продажу, мяне адразу пачалі папракаць, што такім чынам я нібыта піяру сваю кнігу. Гэта было крыўдна, але самае сумнае, што асноўным маім пачуццём у той момант быў страх. Я не меў ніякага досведу супрацьстаяння дзяржаве і не хацеў гэтага.

Пасля забароны яе знялі з усіх гандлёвых кропак, а інтэрнэтчыкі напісалі такі радок — «Продажа этого товара больше не планируется». Словам, з «Паранойяй» адбылася тыповая паранойя.

З той пары я два гады нічога не пісаў, а ў 2011 годзе выдаў першы свой вялікі тэкст на беларускай мове, раман «Студзёны вырай».

Па наш дзень некаторыя гавораць, што гэта пакуль самая лепшая мая кніга. Магчыма. Аднак самае цікавае ў тым, што тады я нават гаварыць па-беларуску не ўмеў. Задача напісаць раман на беларускай мове выглядала недасягальнай, але я гэта зрабіў.

Пасля быў «Сфагнум», напісаны зноў па-расійску, таму, што мне тады здавалася: напісаць раман пра гопнікаў, хлопцаў з мікараёнаў немагчыма па-беларуску па вызначэнні. Што іх дыялогі будуць выглядаць ненатуральна. Але, калі паэт Віталь Рыжкоў пераклаў гэта на беларускую мову, і яе выдалі ў «Логвінаве», зразумеў — у нашым жыцці магчыма ўсё.

Год таму выйшла «Мова». Кніга, якая была цалкам абазнанай. Калі яе рабіў, то больш не адчуваў нейкіх складанасцяў з беларускай мовай, а проста сеў і напісаў. Лілося так, як звычайна ліецца з рускай мовай, і я адчуў, што «моўнага пытання» для мяне больш не існуе.

Зараз паўстала другое пытанне — пісаць па-руску альбо па-беларуску. Я — двухмоўны пісьменнік. Палова маіх тэкстаў напісана па-беларуску, палова па-руску. Пры гэтым мне здаецца, што чалавек, які піша па-руску ў Беларусі, рускім ні разу не з'яўляецца.

Аднак вернемся да «Паранойі». У Расіі яе не забаранялі, але ўсе тамтэйшыя выдаўцы маюць вельмі вострае вуха. Хутка яны зразумелі, што я нейкі забаронены пісьменнік, і стасавацца са мной не варта, таму што можна назаўсёды згубіць свае дамовы ў беларускіх выдавецтвах і друкарных дамах. Палова кніжак таго ж АСТ друкуецца ў «Беларускім Доме друку».

Расійскі рынак у пэўным сэнсе для мяне закрыўся. А два-тры гады таму я і сам зразумеў, што больш не хачу туды сунуцца. Калі цябе друкуюць там, то для іх ты хлопчык з правінцыі, які спрабуе рэалізавацца ў вялікай рускай культуры. Мне ж здаецца, што наша задача палягае ў тым, каб падымаць, узнімаць і адраджаць менавіта культуру і літаратуру беларускую, якая пасля Быкава, Караткевіча, Адамовіча крыху прасела праз тое, што да яе няма цікаўнасці. Трэба вяртаць тое, што было здабытым і амаль згубленым. На рускім рынку я хачу прысутнічаць як замежнік, а не як суайчыннік-правінцыял.

«Паранойю» набыло англамоўнае выдавецтва «North Western University Press» з Ілінойскага ўніверсітэта. Яе пераклала прафесар Карнуэльскага ўніверсітэта славістыкі, і мы атрымалі вельмі добрую крытыку.

Пра «Паранойю» напісалі «New York Times Review of books». Як паведамілі мне выдаўцы, толькі 2 адсотка кніг, якія выходзяць у ЗША, атрымліваюць хаця б адзін водгук у «New York Times Review of books». У нас было дзве станоўчыя рэцэнзіі. Гэта вельмі вялікі поспех.

З мінулага года пачалася мая гісторыя ў Германіі. Гісторыя, якая вельмі натхняе і нараджае шмат надзеяў, таму што гэта вельмі буйны рынак, і таму што там людзі крыху іншыя. Калі ты ў Германіі на чытанне збіраеш 100 чалавек, гэта значыць, што яны заўсёды будуць цікавіцца тваёй творчасцю і заўсёды будуць прыходзіць на творчыя сустрэчы.

Пачалося ўсё з таго, што выдавецтва «Voland und Quist» набыло правы на «Паранойю». Пасля гэтага яны пачыталі «Сфагнум», набылі правы і на яго. А літаральна месяца паўтара таму яны, пачуўшы пра «Мову», набылі і яе. Цікава, што правы на апошнюю кнігу яны набылі без расійскіх і шведскіх пасярэднікаў, якія палічылі яе «надта спецыфічнай».

Нямецкія выдаўцы вельмі апантаныя гэтай кніжкай. Яна запланавана на восень 2016 года. Спадзяюся на поспех. У выдавецкім бізнесе (менавіта ў мастацкай літаратуры) ёсць алгарытм, пра які ўсе кажуць: першая кніжка — звычайна не страляе, другую крыху заўважаюць, трэцяя — самае галоўнае. Мы вельмі моцна выбухнулі з «Паранойяй», якая ў Германіі выйшла ў кастрычніку мінулага года. Пра яе напісалі ўсе тамтэйшыя буйныя медыі. Праз месяц пасля выхаду была дадрукоўка тыражу, што для першай кніжкі вельмі вялікі поспех.

У красавіку я быў у літаратурным турнэ (другім па ліку) па Нямеччыне і Еўропе, якое зладзіў мой нямецкі выдавец. Сярод іншага быў маленькі нямецкі гарадок Райцвальд.

Хадзіў па вуліцах — і раптам пазнаваў Ашмяны. Адзінае, што ёсць там, але няма ў Ашмянах, — выхад да мора. Усё астатняе — амаль копія.

Менавіта там я зразумеў, што такое пісьменніцкі драйв. Ты прыязджаеш у горад, пра які ніколі нічога не чуў і нават не ведаў, што ён ёсць, прыходзіш на сустрэчу з чытачамі і бачыш — поўную залю. І гэта так крута!

# Першы пітчынг кінапраектаў адбыўся ў Беларусі

**У Мінску прайшла імпрэза, якая анансавалася як першы ў Беларусі пітчынг кінапраектаў. Што да самога тэрміну «пітчынг» (з англійскай мовы — «выстаўленне на продаж»), то, можа, больш звыклымі для беларускага вуха і разумення былі б адпаведнікі: «фільм-праменад», «кінакалядкі», «кінаагледзіны», «сінема-шпацыр» — такія варыянты прапанавалі нашы чытачы ў сацсетках.**













Імпрэза адбывалася ў кангрэс-зале «Барселона» гатэля «Вікторыя-Алімп». Усім прысутным былі раздадзеныя бланкі са спісам праектаў і назвамі камандаў — і просьбай ацаніць іх па дзесяцібальнай сістэме. Як паведаміла Наталля Юшкевіч, спецыяліст па камунікацыях у Майстэрні сацыяльнага кіно, якая выступіла ініцыятарам праекту падтрымкі маладых кіношнікаў KINOSPRINT і арганізавала пітчынг: «Адзнакі будуць уплываць на канчатковы выбар журы. Як і сённяшнія прамовы-прэзентацыі нашых фіналістаў. Вынікі будуць абвешчаныя арыентавана праз месяц».

Найлепшыя маладыя рэжысёры, якія прайшлі адбор праекта KINOSPRINT, прадставяць свае ідэі, падбор акцёраў і планы будучых фільмаў. Анансавалася, што будзе публічна агучана, як размяркуюцца сродкі, атрыманыя ад буйных кінакампаній, паміж фіналістамі, а таксама вялося пра ўплыў на гэта меркавання гледачоў.

Вось што распавялі пра падзею сябры журы.

**Канстанцін Верабей, старшыня аргкамітэта KINOSPRINT, намеснік дырэктара Майстэрні сацыяльнага кіно:**

— «Кінаспрынт» падтрымлівае перадусім дэбютныя малабюджэтныя праекты маладога беларускага кіно. На конкурс прыйшло 29 калектыўных заявак ад 89 спецыялістаў і 16 індывідуальных, пасля адбору і нарадаў індывідуальных творцаў далучылі да абраных і сфармаваных 12 каманд, якія атрымаліся ў выніку. Што да падтрымкі — 3 пераможцам у фінале будзе аказанае спрыянне ў агучцы, тэхніцы і прасоўванні канчатковага прадукту.

**Юрый Ігруша, генеральны прадзюсар Belarusian Film Group:**

— Кіно само па сабе не робіцца. І мы вырашылі паспрабаваць зрабіць невялікую калекцыю маладога беларускага кіно.

Генеральны прадзюсар падкрэсліў, што на пэўным конкурсным этапе задачай было — ураўняць сілы каманд, бо было шмат і моцных удзельнікаў, і цалкам пачаткоўцаў. А таксама спадар Ігруша адзначыў, што добрых ідэй не бракуе, але ёсць праблемы з увасабленнем. І выказаў спадзяванне, што гэтыя пробныя кінаэксперыменты стануць паспяховымі — у чым ён будзе дапамагаць у плане прасоўвання праектаў, бо глядзіць на іх будучыню з аптымізмам.

**Анора Лангар, спецыяліст па сувязях з грамадскасцю таварыства «Зялёная сетка»:**

— Гэта быў перадусім конкурс ідэй. Мы рызыкнулі і папрасілі зрабіць праекты ў іграавым жанры, хаця сацыяльнае кіно, вядома, працей рабіць дакументальным. Але хацелася, каб усё было весялей і больш запамінальна.

**Аляксандр Левянчук, генеральны прадусар New Wave Production:**

— Мы абяцаем маладым людзям, што выйдуць у фінал, каб ажыццявіць іх задумы, прадаставіць з нашага боку абсталяванне, дапамогу з гукапісам, строі з нашай касцюмернай і кансультацыі. Галоўнае, што варта памятаць канкурсантам, што на іх фільмах будзе напісана «Зроблена ў Беларусі!» — і нам не мусіць быць за гэта сорамна!

**Аляксандр Алейнікаў, аператар-пастаноўшчык:**

— Усе ідэі цікавыя. Мы дапаможам з постпрадакшанам, з мантажом, колеравай карэкцыяй, святлом. Але вынік залежыць не ад нас, а ад удзельнікаў, таму жадаю ім удачы!

Падчас пітчынгу выявілася, наколькі каманды гатовыя да здымак і якія вядомыя прафесійныя акцёры прынялі прапанову здымацца ў маладым кіно (у спісах былі прапісаныя многія вядучыя акторы дзяржаўных тэатраў — Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага, Купалаўскага тэатра, РТБД і інш., а таксама выкладчыкі Акадэміі мастацтваў).

Выступоўцамі першага пітчынгу сталіся 6 маладых каманд, фіналістаў KINOSPRINT. Паслядоўнасць, у якой прэзентаваліся праекты:

**1. Каманда «Сіла»**
**фільм «#Zveno» (камедыя)**

Паказалі самую займальную інтэрактыўную прэзентацыю з удзелам маладой акторкі, загрыміраванай пад пабітую алкагалічку, што збірае бутэлькі. Але, на жаль, пасля самой прэзентацыі абсалютна не стала ясней, пра што ж, уласна кажучы, само кіно. І толькі па просьбе Юрыя Ігрушы аўтары патлумачылі, што герой фільма — малады гулец, які праз пазыкі апынуўся на сметніку. Ён змяняецца там, знаёмячыся з насельнікамі вялікай сметніцы, якія займаюцца сарціроўкай адкідаў.

**2. Каманда «Fifteen»**
**фільм «Лічыльнік шчасця» (драма)**

У гэтым праекце вельмі дакладным і адказным падаўся падыход аператара праекта Наталлі Каварскай, якая падышла надзвычайна абыходліва да выбару натуры і падбору элементаў і аб'ектаў для сцэнаграфіі савецкай кватэры, якая з'яўляецца галоўнай здымачнай лакацыяй. Фільм пра выпадкова знойдзены ў рэчах бацькі пасля Чарнобыльскага выбуху лічыльнік радыяцыі, які маленькі хлопчык прымае за лічыльнік, якім можна замераць узровень шчасця.

**3. Каманда «Цукеркі-баранaчкі»**
**фільм «Шведскі стол» (камедыйная прыпавесць)**

Структурна складаны і мо празмерна закрэатыўлены, прынамсі, у частцы прэзентацыі фільм, што складаецца з трох трэйлераў і аднаго фільма ў фільме. Да падачы ідэі аўтары падышлі з гумарам, што мо крыху зблытала сутнасць ідэі ў яе прадстаўленні публіцы.

**4. Каманда «BK-film»**
**фільм «Гаспадар» (драма)**

Гэтым разам на сцэну выйшаў толькі адзін прадстаўнік, які як прапаведнік апавядаў гісторыю чалавечых прыгожых учынкаў, робячы акцэнт на экалогіі душы, з якой і ўзнікаюць далейшыя экалагічныя катастрофы.

**5. Каманда «Zebra movie»**
**фільм «Эстафета» (роўд-муві, камедыя, драма)**

Ненагрувашчаная, даволі ўцямная і лёгкая гісторыя пра героя, што знайшоў бомбу і вязе яе ў органы — але ніхто не хоча з ім звязвацца, больш за тое — за парушэнні яго самога арыштоўваюць... Аўтары ўжо маюць у скарбонцы сваіх наробкаў некалькі кароткаметражных фільмаў — верагодна таму, падаліся найбольш уцямнымі і найменш накручанымі лішнімі сэнсавамі ў сваім аповедзе. Удала была зроблена інсцэніроўка — як пасля характэрнага цікання актор вынес і паклаў на стол журы бомбу, якую змайстравалі самі ўдзельнікі каманды.

**6. Каманда «Пірат студыа»**
**фільм**
**Дваццацьшаснаццаць»**
**(прыпавесць, трагічная камедыя)**

Гэта гісторыя выглядала найбольш філасофскай з усіх прапанаваных. Галоўны сэнс палягаў у сцэнаграфіі, якая і трымала на сабе ўсю мастацкую задуму. Аўтары меркавалі ў полі пабудаваць дызайнерскую скразную арт-кватэру, якая б і ўвасобіла ўсю філасофію фільма: чалавек спрабуе зрабіць з падручных матэрыялаў горад мары, а сам жыве такім чынам. Таксама ў сцэнары была ўжыта і дэманстратыўна паказаная на прэзентацыйным экране нецэнзурная лексіка, на чым была акцэнтаваная ўвага журы, якое мела сумнеў наконт неабходнасці яе ўжывання. Стваральнікі ўсміхнуліся, што на сумнеўным слове можа адбыцца «выбух» альбо яго можна эфектна «з'есці».

Хочацца верыць, што ўсе ідэі знойдуць магчымасць свайго ажыццяўлення якасна і цікава. Чакаем праекты маладых і крэатыўных пераможцаў на экранах!

**Фота і тэкст — «Новы час»**

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009 г.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1094

Падпісана да друку 21. 08.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.